ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 27 (2325) 8 ліпеня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

Святлана БАГДАНКЕВІЧ

Беларусь — эмігрантка, выгнанніца,
Белым прывідам ходзіць па свеце —
То ў далінах туманіцца раніцай,
То ў нябёсах нясецца, як вецер,

Белай птушкай, а то — белым воблакам,
Белым снегам — ільняным абрусам
Ляжа, сэрца кранаючы водгукам
Тым, хто помніць сябе беларусам.

Той, хто сніць шчэ радзіму далёкую,
Сустракаў мо калі на дарозе
Гэту постаць, як здань, адзінокую,
Што брыдзе, ледзь жывая ў знямозе —

Мо ў Аўстраліі дзе, мо ў Амерыцы,
Мо дзе ў іншых краях... Невядома,
Колькі будзе блукаць, покуль вернецца
З тых самотных вандровак дадому.

СЛОВА МАЮЦЬ СЯБРЫ МАБ

## ПРЫСУТНАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ШВЕЙЦАРЫІ

На фоне беларуска-заходнееўрапейскіх культурных сувязей беларуска-швейцарскія, безумоўна, займаюць, бадай, адно з апошніх месцаў. Уласна кажучы, такіх сувязей пакуль што няма, або, гаворачы з крупінкай аптымізму, знаходзяцца яны ў фазе першых спробаў збліжэння.

З аднаго боку, гэты стан абумоўлены стрыманасцю нашай знешнекультурнай палітыкі ўвогуле, якая, па сутнасці, вядзецца вузкім колам дыпламатычных прадстаўнікоў і заснаванай у 1939 годзе федэральнай фундацыяй "Pro Helvetia". Гэтая фундацыя, што ва Усходняй і Цэнтральна-Усходняй Еўропе пачала ўсталёўвацца толькі пасля 1989 года, ставіць сваёй мэтай, аднак, не столькі наладжванне культурнага абмену і азнаямленне нашай грамадскасці з замежнымі культурамі, колькі распаўсюджванне за мяжой швейцарскіх культурных каштоўнасцей. Таму сапраўдны ўзаемаабмен адбываецца галоўным чынам не праз дзяржаўныя ўстановы, а дзякуючы асобным арганізацыям, інстытуцыям і грамадскім ды культурным дзеячам.

З другога боку, дагматычна-цэнтралістычны характар савецкай культурнай палітыкі да апошняга часу рабіў немагчымымі судакрананне і развіццё кантактаў паміж нацыянальнымі культурамі Саюза і культурамі Заходняй Еўропы, у тым ліку і "буржуазна-капіталістычнай" Швейцарыі. Выступленні савецкіх мастакоў і стваральнікаў культуры ў нашай краіне часцей за ўсё адбываліся па запрашэнню таварыства "Швейцарыя — Савецкі Саюз"; ініцыятывы іншых на гэтым полі звычайна натыкаліся на перашкоды з маскоўскага боку — тым больш, калі яны мелі дачыненне да неафіцыяльнай творчасці. Зразумела, што амаль уся культурная актыўнасць абмяжоўвалася прадстаўленнем і папулярызацыяй рускай культуры.

Занадта неспрыяльныя ўмовы, у якіх існавала беларуская культура да апошняга часу, перашкаджалі ўспрыманню, ацэнцы яе своеасаблівых і самабытных каштоўнасцей. Можна нават сказаць, што не толькі культура, але і самі беларусы наўрадці былі ў нас заўважаны. Беларусь трапіла ў швейцарскае (дый не адно наша) поле зроку толькі пасля чарнобыльскай аварыі. У выніку яе, бадай, упершыню ў гісторыі абедзвюх краін дайшло да ўсталявання кантактаў, датычных, аднак, больш за ўсё да спраў медыка-гуманітарнай дапамогі.

(Працяг на 3-й стар.).

ДА 200-годдзя МІНСКАЙ ЕПАРХІІ





З 25 па 27 чэрвеня ў Мінску, а таксама ў Слуцку і Заслаўі адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя святкаванню 200-годдзя Мінскай епархіі. Шмат чаго ўмясцілі ў сябе гэтыя два стагоддзі, але ж да свайго юбілею Беларуская праваслаўная царква прыйшла з малітвай удзячнасці за сваё аднаўленне і адраджэнне...

НА ЗДЫМКАХ: хрэсны ход з мошчамі Святой праведнай Сафіі Слуцкай вакол Свята-Духава кафедральнага сабора. Княгіня Сафія была апякункай праваслаўных святыняў, займалася дабрачыннасцю, дапамагала бедным, ахвяравала на будаўніцтва манастыроў і храмаў; асвячэнне памятнага знака на месцы царквы XI стагоддзя ў Мінску.

Пры раскопках Замчышча ў 1949 годзе быў тут знойдзены фундамент невялікай каменнай царквы, самай старажытнай храмавай пабудовы нашага горада.

Фота А. ТАЛОЧКІ і Я. ПЯСЕЦКАГА.

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ВІЗІТЫ*

## ЛЕХ ВАЛЕНСА НАВЕДАЎ НАШУ РЭСПУБЛІКУ

Нягледзячы на тое, што ў час візіту ў Мінск у канцы чэрвеня не планавалася падпісанне ніякіх двухбаковых пагадненняў, прыезд Прэзідэнта Польшчы наўрад ці выпадае расцэньваць як просты візіт ветлівасці. Для Беларусі яе заходняя суседка ўжо даўно стала галоўным пасля краін СНД замежным эканамічным партнёрам. У сваю чаргу і наша краіна для Польшчы — партнёр зусім не другарадны. Па звестках польскага МЗС, менавіта з Беларуссю (сярод былых рэспублік СССР) Польшча падпісала найбольш пагадненняў і актыўна працягвае працаваць над новымі дамоўленасцямі.

Прэзідэнт Польшчы Лех Валенса меў гутарку са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславам Шушкевічам. Кіраўнікі дзяржаў, як можна было зразумець з іх адказаў на прэс-канферэнцыі, шмат часу адвялі размове аб сітуацыі ў сваіх краінах.

Па ініцыятыве польскага боку мела месца сустрэча Л. Валенсы з лідэрам БНФ Зянонам Пазняком у Курапатах, дзе польскі прэзідэнт з жонкай усклалі кветкі да памятных крыжоў.

Лех Валенса ў час візіту наведаў мясціны, звязаныя з агульным гістарычным мінулым нашых народаў: Баранавічы, Навагрудак.




НА ЗДЫМКУ: цырымонія сустрэчы Леха ВАЛЕНСЫ ў Мінскім аэрапорце.

*ВАКОЛ ЮБІЛЕЮ СБМ*

## СХОД АДМЕНЕНЫ, МІТЫНГ АДБЫЎСЯ

Савет Міністраў Беларусі разгледзеў звароты Мінскай гарадской арганізацыі ветэранаў вайны і працы, Камітэта па справах моладзі пры Саўміне, шэрагу іншых грамадскіх арганізацый і грамадзян, якія выказвалі пратэст і абурэнне ў сувязі са сходам, прысвечаным 50-годдзю стварэння "Саюза беларускай моладзі" (СБМ), які намячаўся 26 чэрвеня гэтага года ў памяшканні Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.

Урад падтрымаў паступіўшыя ў яго адрас прапановы аб недапушчальнасці якіх-небудзь мерапрыемстваў, звязаных з так званым юбілеем СБМ. Старшыня Савета Міністраў В. Кебіч падпісаў адпаведнае распараджэнне.

26 чэрвеня быў праведзены толькі мітынг актывістаў "Задзіночання беларускіх студэнтаў", які прайшоў у падземным пераходзе станцыі метро "Купалаўская", можна лічыць у падпольных умовах.

*АДКРЫТА ПРАДСТАЎНІЦТВА*

## ВАМ ПАТРЭБНЫ ЛЕКІ?

У Мінску адкрыта прадстаўніцтва вядомай амерыканскай фармацэўтычнай кампаніі "Апджон". Заснаваная больш ста гадоў назад, цяпер яна ўваходзіць у лік буйнейшых у свеце вытворцаў медыцынскіх прэпаратаў, прадае толькі тыя лякарствы, якія сама распрацоўвае і вырабляе. Шырокую вядомасць атрымалі такія прэпараты "Апджон", як "далацын", "лінкацын", "цытазар", іншыя.

У Беларусі "Апджон" заявіла аб сабе тры гады назад: зрабіла буйны дабрачынны дар дзецям, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС (полівітаміны "юнікап" на 4 мільёны долараў). З таго часу кампанія пастаянна аказвае дапамогу беларускім медыцынскім установам, а таксама асобным грамадзянам. Але ва ўмовах глабальнага дэфіцыту медыцынскіх прэпаратаў дабрачыннасць не зменіць сітуацыю. Таму "Апджон" і адкрыла сваё прадстаўніцтва, з дапамогай якога медпрэпараты будуць пастаўляцца хутка і без пасрэднікаў.

*ВЕСНАВЫ ПРЫЗЫЎ*

## НЕ ПРЭСТЫЖНА

Заканчваецца тэрмін, вызначаны Саветам Міністраў Беларусі на веснавы прызыў грамадзян на тэрміновую ваенную службу. Але як і ў мінулым годзе, многія прызыўнікі не з'явіліся ў ваенкаматы. Паводле даных на 1 чэрвеня, не прыйшлі на прызыўныя пункты 2,5 тысячы юнакоў (у 1988 годзе — усяго толькі 2 чалавекі).

— Такое становішча, — гаворыць начальнік аддзела Мінскага абласнога ваенкамата падпалкоўнік Міхаіл Канстанцінаў, — склалася з-за рэзкага падзення прэстыжу ваеннай службы, згортвання ваенна-патрыятычнага выхавання моладзі. Асабліва гэта прыкметна ў Мінскай вобласці. На яе падае львіная доля тых, хто адмовіўся служыць, — 1 400 (з іх 1 000 —мінчане, а дзве трэція астатніх — з Барысава і Салігорска). Такім чынам, асноўны працэнт тых, хто ўхіляецца ад ваеннай службы, даюць нашы гарады.

*ГУМАННЫ АКТ*

## МІНАШУКАЛЬНІК — У ПАДАРУНАК

У Беларусі па ўласнай ініцыятыве пабывала двое немцаў, у мінулым афіцэраў вермахта, Ганс-Ёрг Кіміх і Рудзі Вальхайн. Прыехалі яны да нас не з пустымі рукамі. Даведаўшыся пра пачатыя работы па размініраванню, якія вядуцца ў Дубровенскім раёне. Кіміх і Вальхайн прывезлі баявыя карты франтавых гадоў з абазначэннем мінных палёў, а таксама сучасны мінашукальнік.

— Мы ўдзячныя немцам за такі каштоўны і далікатны падарунак. Карты — выдатная наводка, шкада толькі, што не вельмі падрабязныя, не ўсе мінныя палі на іх нанесены, — сказаў камандзір раёна размініравання падпалкоўнік С.Нос.

Адзін з гасцей, пан Кіміх, пабываў на Дубровеншчыне ў раёне размініравання. Гэтыя мясціны знаёмыя яму з агнявога 1944-га, калі дзевяцімесячнае процістаянне нашых і нямецкіх войск на гэтым участку фронта перарасло ў пачатак вядомай аперацыі "Баграціён".

Відаць, шчымлівае пачуццё віны за прынесенае беларускаму народу гора, якое не праходзіць з гадамі, і прывяло немцаў да нас. Сімвалічна, што іх прыезд выпаў на пярэдадзень чарговай гадавіны пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

*ФАЛЬШЫВЫЯ ГРОШЫ*

## І РУБЛІ, І ДОЛАРЫ

У Мінску працягваюць "усплываць" фальшывыя купюры. Так, пры пераліку грошай, якія паступілі ў адно з аддзяленняў Нацыянальнага банка рэспублікі з арэнднага гандлёвага прадпрыемства "Люстэрка", была выяўлена такая купюра Расійскага банка вартасцю 5 тысяч рублёў. Аналагічны выпадак зарэгістраваны ў Белаграпрамбанку. 14 чэрвеня тут выяўлена сем фальшывых пяцітысячных расійскіх купюр. Яны трапілі сюды ў агульнай масе з "натуральнымі" з рэспубліканскага прадпрыемства па аптоваму і пасылачнаму гандлю. "Паводка" фальшывак і на валютным рынку. У прыватнасці, не ўдалася спроба жыхаркі Мінска К. абмяняць у Доме гандлю "Першамайскі" фальшывыя 20 долараў ЗША. А госць з Чыты пацярпеў няўдачу ў абменным пункце камерцыйнага банка "Комплекс", дзе спрабаваў збыць падробленую 100-доларавую банкноту.

*РАЗЗБРОЙВАЕМСЯ*

## ГІНЕ ТЭХНІКА, АЛЕ НЕ Ў БАІ

Беларусь працягвае выконваць умовы Дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе, падпісанага яшчэ у 1990 годзе Савецкім Саюзам.

На сённяшні дзень у рэспубліцы ўжо знішчана 224 танкі Т-62, 125 баявых машын пяхоты БМП-1, 156 бронетранспарцёраў БТР-60 і многа іншай тэхнікі.

*ПАЧАТАК ПАКЛАДЗЕНЫ*

## ПЕРШЫ ПАДРУЧНІК ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Выхад Беларусі на шлях незалежнай самастойнай дзяржавы патрабуе карэнным чынам змяніць адносіны да адукацыі на ўсіх узроўнях. Гэта тычыцца і школ, і ПТВ, і вышэйшых навучальных устаноў. Такія словы былі лейтматывам выступаўшых на прэзентацыі падручніка па гісторыі Беларусі для 5—6 класаў, арганізаванай па ініцыятыве Міністэрства адукацыі. Прайшла яна ў актавай зале Міністэрства інфармацыі. Тут сабраліся журналісты, выдаўцы, работнікі адукацыі рэспублікі.

Прычынай такога мерапрыемства паслужыла падзея неардынарная: выдадзены ўпершыню падручнік па гісторыі Беларусі для 5—6 класаў.

— Да гэтага часу, — адзначыў у сваім уступным слове міністр адукацыі Віктар Гайсёнак, — мы займаліся па падручніках былога Саюза. Ні іх змест, ні нават аб'ём не маглі задаволіць ні студэнта, ні школьніка, ні пэтэушніка і выкладчыка. Скажэнні фактаў, часам надуманыя, навязаныя тэорыі не давалі праўдзівага разумення нашых асноў, вытокаў, каранёў. Асабліва гэта тычылася падручнікаў па гісторыі і геаграфіі.

— Мы нават не ўсведамляем, якую вялікую справу зрабілі, — падкрэсліў у сваім выступленні міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч. — Па-новаму асэнсаваўшы нашу гісторыю, мы стварылі падручнік не толькі для дзяцей, але і для нас, бацькоў. Бо па віне псеўданавуковага выкладання гістарычных фактаў, дзесяткамі гадоў навязваемых былой сістэмай, мы не ведалі, хто мы, не ведалі свайго месца сярод вялікіх народаў зямлі. Справядлівасць павінна была перамагчы, і яна, дзякуючы нашым вучоным, аўтарам гэтага падручніка, іх карпатлівай і настойлівай працы, перамагла.

Падручнік быў створаны ў вельмі сціслыя тэрміны: 30 сакавіка здадзены ў набор, а 16 красавіка ўжо падпісаны ў друк. Праўда, гэта толькі першая ластаўка. Да пачатку новага навучальнага года патрэбна выдаць яшчэ дваццаць падручнікаў.

З вялікай цікавасцю прысутнымі была ўспрынята прамова аднаго з аўтараў "Гісторыі Беларусі" Штыхава. Георгій Васільевіч расказаў, як ішла праца над падручнікам.

— Вучонымі рэспублікі, — падкрэсліў ён, — была праведзена агромністая работа па збору гістарычных фактаў. Шлях сапраўднага развіцця нашай нацыі, беларускага народа аднаўляўся не толькі па летапісах, але і па аналізах, супастаўленнях з сённяшнімі трактоўкамі савецкіх тэарэтыкаў і гісторыкаў. У сваёй рабоце мы прытрымліваліся толькі справядлівасці, аддаючы павагу і нашым суседзям з іншых рэспублік. Нярэдка даводзілася садзіцца за "круглы стол" з вучонымі іншых краін. Шмат спрэчных пытанняў, напрыклад, удалося вырашыць з гісторыкамі Літвы. І гэта не выпадкова. Лёс нашых двух народаў на пэўным гістарычным этапе вельмі цесна пераплецены.

Шмат спрэчак выклікалі трактоўкі і наконт Велікарускай дзяржавы з цэнтрам у Кіеве. Усе гэтыя і іншыя пытанні прыйшлося вырашаць, выкарыстоўваючы і спасылаючыся на неабвержныя першакрыніцы тых даведак і дакументаў, якія ёсць і ў нас, і за мяжой, што тычацца Беларусі розных часоў.

Падручнік "Гісторыя Беларусі" для 5—6 класаў, падкрэсліў Георгій Штыхаў, трэба пакуль што лічыць пераходным. Ёсць у ім нейкія спрэчныя моманты, ёсць і не да канца высветленыя пытанні. Аўтарскаму калектыву трэба яшчэ шмат папрацаваць для навуковага абгрунтавання многіх этапаў развіцця нашай Беларусі.

Мяккія вокладкі, адсутнасць ілюстрацыйнага матэрыялу, карт, безумоўна, збядняе новы падручнік. Але нельга ўстрымацца ад падзякі аўтарам Георгію Штыхаву, Уладзіміру Пляшэвічу і іншым за такую патрэбную кніжку для дзяцей.

Адказваючы на пытанні журналістаў на прэс-канферэнцыі, якая адбылася пасля прэзентацыі, начальнік упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Генадзь Пятроўскі растлумачыў, што карты, схемы "не паспелі за падручнікам, бо не хапіла часу іх выдаць, не ведаючы зместу яго". Што ж тычыцца праграмы падрыхтоўкі настаўнікаў, то ўжо першыя такія заняткі былі праведзены, сама праграма будзе надрукавана ў "Настаўніцкай газеце".

Першая ластаўка. Яна, кажуць, абвяшчае вясну. Хочацца спадзявацца, як адзначыў на прэс-канферэнцыі міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч, што яна прынясе і лета. Бо ўслед за падручнікамі па гісторыі і геаграфіі выдавецтвамі рэспублікі будуць выпушчаны беларускія падручнікі і па іншых прадметах: літаратуры, мастацтву і інш. Вучоныя пачалі іх пісаць.

У заключэнне адзначым, што першымі ўладальнікамі "Гісторыі Беларусі" сталі ўдзельнікі прэзентацыі. Кошт падручніка 60 рублёў. Гэта намнога менш, чым тыя затраты, што зроблены на яго выданне. Апошняе падкрэслена на прэс-канферэнцыі дырэктарам выдавецтва "Народная асвета" Ігарам Лапцёнкам, якое і выдала ў сціслыя тэрміны падручнік для 5—6 класаў.

**Яўген ІВАНОЎ.**

**Калектыў рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" выказвае спачуванне супрацоўніцы рэдакцыі БАНДАРЭНКА Таісе Сяргееўне ў сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю БРАТА.**

### З ЛІПЕНЯ РЭСПУБЛІКА АДЗНАЧЫЛА ДЗЕНЬ ВЫЗВАЛЕННЯ АД ФАШЫСЦКІХ ЗАХОПНІКАЎ

# НЕРАЗГАДАНАЯ ТАЙНА

ПРА ГЭТАГА чалавека я даведаўся ад лётчыка Вячаслава Безмена.

...Серабрысты лайнер набраў вышыню, падняўся за воблакі, якія цяпер плылі ўжо пад самалётам. Гэты аднатонны пейзаж хутка надакучыў пасажырам, і яны, адвярнуўшыся ад ілюмінатараў, сталі шукаць сабе занятак. Адны дасталі газеты, кнігі, другія, спрытней уладкаваўшыся ў крэслах, проста задрамалі.

Сусед Вячаслава Безмена і не чытаў, і не драмаў. Неспакойна ёрзаў у крэсле, час ад часу ледзь не на сто восемдзесят градусаў паварочваўся, відаць было — шукаў субяседніка.

Нейкі момант Вячаслаў Міхайлавіч спадцішка прыглядваўся да гэтага пасажыра, нібы вывучаў яго. Самы звычайны мужчына: немалады, гадоў пад шэсцьдзесят пяць, рэдкія сівыя валасы на галаве, закарузлыя, жылістыя рукі — адразу бачна, што чалавек здаўна, як кажуць, не выпрагаўся з работы... Ну, а ў асноўным такі, як і ўсе, нічога адметнага. Безмену нават падалося, што ён некалі бачыў яго ў сябе ў Кустанаі.

Размова пачалася амаль з традыцыйнага пытання, якое задае ледзь не кожны незнаёмы пасажыр свайму суседу:

— Вы — у Маскву? — спытаў Вячаслаў Міхайлавіч.

— Далей, далей, — адразу ажывіўся стары, узрадаваўшыся, што знайшоў субяседніка, і ўдакладніў: — Праз Маскву ў Беларусь.

— Дык і я ў Беларусь, — адказаў Вячаслаў Безмен.

Сусед, хацелася чалавеку выгаварыцца, стаў расказваць пра сябе. Мікалай Віктаравіч Палуйка. Родам з Баранавіч. У вайну ў першыя ж дні трапіў у палон. Мо́жа і згінуў бы недзе ў канцлагеры, каб не адна беларуская жанчына. Калі немцы гналі калону савецкіх ваеннапалонных на чыгуначную станцыю Наваельня для пагрузкі ў вагоны (напэўна, у канцлагер?), да канваіра смела падышла сялянка і паказала на Палуйку:

— Гэта мой муж, прашу адпусціць...

І аддала канваіру залаты пярсцёнак.

Канваір махнуў рукой:

— Забірай, вэк!

Адным больш, адным менш — ваеннапалонных хапала. Ніхто іх тады не лічыў і не ўлічваў.

— Так я "ажаніўся" другі раз, — нявесела пажартаваў Мікалай Віктаравіч, — бо першы раз ажаніўся са сваёй Настусяй яшчэ да арміі.

Што далей?.. А далей у той жанчыны, Ніны Чалей (хіба ж можна забыць свайго збавіцеля), доўга не затрымаўся. Пражыў у Навасёлках Дзятлаўскіх недзе з паўгода. Ды і то не ў Ніны Чалей: жанчына была вельмі строгая, чакала свайго мужа з фронта, а таму адправіла на "пастой" да сваёй старой маці.

— Вось так з першага дня, — зноў пажартаваў Палуйка, — я атрымаў і "развод".

Неяк адправіўся на цягніку-кукушцы з мехам мукі на кірмаш у Навагрудак. Там сустрэўся з сувязнымі партызанскага атрада, якому пазней прысвоілі імя Дзяржынскага.

— Сувязныя і ўгаварылі мяне ўступіць у гэты атрад...

Нічым такім геройскім, па словах Мікалая Віктаравіча, ён не вызначыўся. Ваяваў, як і ўсе. Хіба што вельмі запомніўся адзін эпізод, калі разведчыкі, а сярод іх быў і Палуйка, завялі ў балота дзве нямецкія самаходкі.

Мяне вельмі зацікавіў эпізод з самаходкамі. Я даўно збіраю матэрыялы пра партызанскі рух на тэрыторыі былой Баранавіцкай вобласці. Тут асабліва вызначыліся народныя мсціўцы пад камандаваннем Дзмітрыя Дзенісенкі.

Гэтага чалавека я добра ведаў асабіста. Пасля вайны ён узначальваў калгас імя Жданава на Навагрудчыне. Не раз прыходзіў у Любчанскую школу, дзе я вучыўся, бывалі і іншыя партызаны. Усе яны дзяліліся сваімі ўспамінамі аб барацьбе з ворагам. Выдзялілі сярод важных этапаў змагання тры, якія карэнным чынам паўплывалі на развіццё падзей у ваенныя гады на тэрыторыі Баранавіцкай вобласці. Гэта ўзяцце партызанамі Любчы, разгром паліцэйскага гарнізона ў Купіску. Дарэчы, тут вызначыўся юны партызан Міхаіл Белуш, які паўтарыў подзвіг Аляксандра Матросава — накрыў сваім целам станковы кулямёт. І трэці этап — зрыў нямецкай блакады ў час вызвалення Беларусі. Да гэтага этапу і адносіцца гісторыя з самаходкамі. На жаль, падрабязнасцей таго эпізоду я амаль што не ведаў.

Узяцце, або лепей сказаць, разгром гарнізонаў у Любчы і Купіску мела вялікае значэнне ў тым сэнсе, што ўсяліла ў жыхароў вобласці надзею на хуткі разгром фашыстаў, падарвала маральны дух ворага і яго памагатых. Не выпадкова цэлыя атрады падраздзяленняў, што былі створаны гітлераўцамі для барацьбы з партызанамі, сталі пераходзіць на бок народных мсціўцаў. Самі ж фашысты пасля разгрому згаданых гарнізонаў і носа не паказвалі ў некаторыя населеныя пункты.

Цяпер пра самаходкі.

Напярэдадні вызвалення Беларусі партызаны актывізаваліся, наносілі вялікі ўрон ворагу. З Берліна прыйшоў загад заблакіраваць народных мсціўцаў у Налібоцкай пушчы, загнаць у балоты і знішчыць.

З фронта немцы знялі некалькі рэгулярных часцей. Сітуацыя ўскладнялася яшчэ тым, што ў наступе на партызан удзельнічалі некалькі казацкіх часцей, а верныя ворагу мясцовыя паліцэйскія паказвалі дарогу да баз атрадаў народных мсціўцаў.

У крытычны момант з гарнізона ў Нягневічах вораг накіраваў у пушчу тыя дзве самаходкі. Небяспеку заўважыў атрад заслону, які складаўся з шасці чалавек. Партызаны доўгі час адступалі па балоцістай дарозе, спрабуючы збіць з правільнага шляху вадзіцеляў самаходак. Але, відаць, там быў мясцовы праваднік, які не даваў увесці ў зман карнікаў.

Тады недзе за возерам Кромань партызаны заклалі міну і ўзарвалі праход уперад. Адзін жа партызан застаўся ў засадзе, прапусціў самаходкі і ўзарваў дарогу і запруду з канавай ззаду баявых машын, адрэзаўшы шлях да адступлення. Такім чынам вораг апынуўся ў пастцы. Яшчэ вядома, што адзін з шасцярых партызан загінуў — не ад кулі. Заклаўшы міну і спяшаючыся хутчэй адступіць, каб не паспелі схапіць ці застрэліць з самаходак, ён збочыў са шляху. Яго конь праваліўся ў багну і так прыдушыў седака, што ўтапіў у балоце.

Вось такія звесткі.

Расказваючы мне пра спадарожніка ў самалёце, Вячаслаў Безмен, нічога не дадаў новага пра тыя самаходкі. Але мне стала ясна, што Палуйка —адзін з тых партызан, што завялі баявыя машыны ворага ў пастку і далі магчымасць атрадам народных мсціўцаў вытрымаць блакаду. Мне патрэбна было абавязкова сустрэцца з Палуйкам.

Здавалася б, усё складвалася добра. Безмен паведаміў, што Мікалай Віктаравіч ляцеў у Мінск, каб у Дзень Перамогі прыняць удзел у шэсці ветэранаў. Адно насцярожыла: перад пасадкай у Маскве Палуйку стала дрэнна. Яго забрала "хуткая дапамога", і ў Мінск Безмен ляцеў без свайго гаваркога спадарожніка.

...У гэты дзень, 9 мая, я і Вячаслаў Міхайлавіч доўга хадзілі па святочнай сталіцы, угляданіся ў твары сівых ветэранаў, што па аднаму і групкамі збіраліся разам. Мы хацелі знайсці Палуйку, нават распытвалі ў франтавікоў пра яго, але дарэмна: ніхто не ведаў такога, не знайшлося тут і былых партызан з атрада імя Дзяржынскага.

Заставалася яшчэ адна надзея: Вячаслаў Міхайлавіч запомніў адрас Мікалая Віктаравіча — можа ўдасца завесці перапіску.

З такой надзеяй я чакаў тэлефоннага званка з Кустаная ад Вячаслава Безмена, які вярнуўся дадому.

І вось, нарэшце, званок: Палуйка... жыў на вуліцы Амара Дашчанава. Цяпер яго не стала. Сэрца ветэрана перастала біцца 9-га мая, у Дзень Перамогі. Памёр у Маскве.

Вось такая сумная гісторыя. Застаўся нераскрытым яшчэ адзін эпізод Вялікай Айчыннай вайны. Зноў буду шукаць ветэранаў, распытваць у былых партызан аб той шасцёрцы, што не пабаяліся ўступіць у паядынак з грознымі баявымі машынамі ворага.

З гутаркі з Вячаславам Безменам даведаўся яшчэ аб адным удзельніку вайны, аб якім мы раней пісалі мала ці мімаходзь — Ніне Чалей. Дзе яна цяпер, ці жывая?..

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

# ПРЫСУТНАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ШВЕЙЦАРЫІ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Прытым нельга не згадаць і ранейшыя сувязі. Калісьці, да першых дзесяцігоддзяў нашага стагоддзя, швейцарска-ўсходнееўрапейскія ўзаемаадносіны былі больш інтэнсіўныя і разнастайныя, уключалі часткова і Беларусь. Тое, што намі як у звычайным ужытку, так і ў гістарыяграфіі акрэсліваецца паняццем "швейцарска-рускія", "швейцарска-польскія" ды нават "швейцарска-літоўскія" сувязі, мае на ўвазе, як правіла, і швейцарска-беларускія. Толькі яны не вызначаліся, імі ніхто не цікавіўся, не адрозніваў іх ад іншых, не вёў улік, не даследаваў, а таму і ствараецца ўражанне, што іх няма. Сваімі ж вытокамі яны ўваходзяць у час Гуманізму і Рэфармацыі, калі адбывалася пранікненне ў "Літву", гэта значыць, у беларускія землі, пратэстанцкіх вучэнняў, у тым ліку і кальвінізму. Па меры пашырэння яго ў Рэчы Паспалітай навучэнцы "Poloni", "Rutheni" і "Lithuani" паступалі ў Базельскі універсітэт (заснаваны ў 1460 годзе) і ў Жэнеўскую акадэмію (заснавана ў 1559 годзе Кальвінам). Сярод іх, безумоўна, шмат якія паходзілі з Беларусі. Да гэтай з'явы адносіцца і цікавы факт, што надрукаваныя ў сярэдзіне XVI стагоддзя разважанні цюрыхскага рэфармацкага вучонага Тэадора Бухмана (Бібліяндэра) аб паходжанні моваў змяшчалі — здаецца, упершыню для "заходняга"чытача — і звесткі пра старабеларускую мову (Ruthenicus sermo). Выпускнікі кальвінісцкіх школ на Беларусі ў асобных выпадках паступалі ў Жэнеўскую акадэмію аж да сярэдзіны XIX стагоддзя; найбольш выдатны з іх — слуцкі пісьменнік Альгерд Абуховіч — там вучыўся ў 1858—1859 гадах.

Адметны след у швейцарскай культуры пакінулі гістарычная постаць і гістарычная падзея, звязаныя з Беларуссю. Змагару за вызваленне Польшчы Тадэвушу Касцюшку, родам з Беларусі, які памёр у швейцарскім Салатурне, пастаўлены помнік і адкрыты музей, прысвечаны літаратурныя творы, у тым ліку і "памятная ігра". Шырокую вядомасць набыло яго сяброўства са швейцарскім асветнікам і педагогам Песталоцці, якое разглядаецца ў асобнай манаграфіі. Пераход адступаючых войск Напалеона цераз раку Бярэзіну, у выніку якога пагінулі і тысячы швейцарцаў, захаваўся ў нашай памяці і знайшоў сваё адлюстраванне ў шматграннай мастацкай і літаратурнай творчасці. Папулярнасцю ў свой час карысталіся ўспаміны люцэрнскай грамадзянкі Катарыны Морэль-Паер, якая суправаджала свайго мужа ў напалеонаўскім паходзе, а пасля апісала свае драматычныя ўцёкі з Полацка ў Вільню.

Помнікаў швейцарскім падарожнікам, чые шляхі праляглі праз Беларусь і якія расказвалі пра гэты край, на жаль, вельмі няшмат. Найбольш годныя ўвагі, на нашу думку, запіскі берлінскага астранома Іёгана Бернулі, швейцарца з паходжання, які наведаў Беларусь у 1778 годзе і ўспамінае, між іншым, пра Слонім Агінскага і славутыя гродзенскія мануфактуры Тызенгаўза.

Другая палова XIX стагоддзя прывяла ў Швейцарыю значную колькасць уцёкшых польскіх і "літоўскіх" паўстанцаў 1863 года, палітычных эмігрантаў і шматлікіх прадстаўнікоў і прадстаўніц перадавой інтэлігенцыі з царскай Расіі. Прычым, большасць іх паходзіла не з рускіх, а з беларускіх і ўкраінскіх земляў. Зусім розныя светы, у якіх жылі гэтыя прышэльцы і швейцарскія "бюргеры", зразумела, перашкаджалі іх узаемаадносінам і збліжэнню. Аднак шмат хто з эмігрантаў і студэнцтва выбраў сабе не рэвалюцыйны шлях, а прафесіянальную кар'еру, садзейнічаў дасягненням і росту швейцарскай навукі. Беларускі элемент сярод іх, складаючыся пераважна з людзей яўрэйскага паходжання, поўнасцю атаясамліваўся з рускім або польскім, таму ён не ўспрымаўся як нешта адасобленае, своеасаблівае.

У часе першай сусветнай вайны адбываліся ў Лазане канферэнцыі прадстаўнікоў "прыгнечаных і заняволеных" нацыянальнасцей царскай імперыі і габсбургскай манархіі, на якіх — хіба ўпершыню на еўрапейскім форуме — прадстаўлена была і справа беларусаў. Адстойваў яе жэнеўскі анархіст і публіцыст Гюстаў Брашэ (1850—1931). Ён першы адкрыў швейцарскай публіцы не толькі нацыянальныя імкненні, але і культурныя дасягненні і здабыткі беларусаў. У выдадзеную ім у 1918 годзе кнігу аб важнейшых народах і нацыянальнасцях Расійскай імперыі ўвайшоў і напісаны Якубам Коласам пад псеўданімам Т. Гушча раздзел пра культуру і літаратуру беларусаў.

Адносна беларуска-швейцарскіх культурных сувязей у міжваенны час мы не маем дакладнага ўяўлення. На працягу гэтага дваццацігоддзя швейцарскімі выдавецтвамі не было выдадзена, здаецца, ніводнага твора беларускага прыгожага пісьменства ў нямецкім, французскім або італьянскім перакладзе. Прагляд каля трыццаці важнейшых выдадзеных за гэты час літаратурна-мастацкіх і грамадска-палітычных часопісаў, што праводзіўся ў рамках даследчай праграмы на тэму швейцарска-славянскіх узаемасувязей, не даў ніякіх канкрэтных праяўленняў беларуска-швейцарскага кантакту. Было б пажадана даведацца пра змест найбольш распаўсюджаных газет левага і правага спектра. Яны ў кантэксце паведамленняў аб польскіх і савецкіх падзеях, мусіць, закраналі і беларускія.

З усталяваннем у пасляваенны час славістыкі ў нашых універсітэтах — дагэтуль існавала ва універсітэтах Жэнеўскім, Базельскім і Цюрыхскім русістыка, а ў Фрыбурскім кафедра паланістыкі — былі створаны ўмовы для сістэматычнага вывучэння славянскіх моваў, літаратур і культур, значыць, здавалася, і беларускай. Аднак, калі ўлічыць факт, што вучоба вымагае засваення трох славянскіх моваў, у тым ліку рускай як абавязковай усходнеславянскай, нельга здзіўляцца занядбанню ў навучальных праграмах "лішніх" беларускай і ўкраінскай моваў. Аб існаванні іх (а не аб сутнасці) студэнты даведваюцца толькі ў рамках лекцый па параўнальна-гістарычнаму і супастаўляльнаму мовазнаўству, аб літаратуры ж беларусаў і ўкраінцаў ды галоўных яе прадстаўніках яны, як правіла, не даведваюцца анічога. Да крыўднага прыкрае становішча "нярускай усходнеславяншчыны" схіліла мяне да чытання ў 1984/85 годзе курса лекцый "Уводзіны ў беларускую мову і літаратуру" ў Цюрыхскім славістычным інстытуце. Адсутнасць кнігаабмену з установамі Беларусі, цяжкасці атрымання беларускіх кніг і пласцінак не маглі не адбіцца адмоўным чынам на цікавасці студэнтаў да беларушчыны. Недахоп часу і ведаў, зразумела, не дапусціў шырокай праграмы курса, вось чаму нам вельмі прыдалося дапаўненне ў выглядзе даклада, што прачытаў у Цюрыхскім універсітэце прафесар А. Макмілін на тэму "Русіфікацыя і супраціўленне ёй у сучаснай беларускай літаратуры".

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

ВОДГУЛЛЕ

# БАБА З КАЛЁС -- КАНЮ ЛЯГЧЭЙ!

Даўно ўжо не пісаў у "Голас Радзімы", але гэта зусім не азначае, што я не чытаю штотыднёвік таварыства "Радзіма". Адзначу, што газета мяняецца да лепшага, адчуваецца, што зараз няма "дырыжора" з былое КПСС–КПБ, газета смела ўзнімае розныя пытанні жыцця беларусаў як на Бацькаўшчыне, так і ў блізкім і далёкім замежжы. Дзякуй калектыву за гэта. А напісаць у "Голас Радзімы" мяне заставілі два лісты беларусаў з Польшчы і Англіі, змешчаныя ў 21-м нумары тыднёвіка за 27 мая сёлета: "У такую "Беларусь" мы не паедзем" (Падляшук з Польшчы) і "А каб так у Расіі?" (А. Гілярчык з Англіі). Перачытаў пісьмы спадароў двойчы. Скажу шчыра, што ліст спадара А. Гілярчыка мне спадабаўся, і я нават парагатаў у канцы чытання яго ліста, дзе ён піша, што бачыў "Советскую Белоруссию" не на сталe ці пад сталом у сялян, але "там-сям бачыў яе на ржавым цвіку..." Я сам пісаў у розныя інстанцыі з прапановай змены назвы газеты, бо зараз наша Бацькаўшчына не "Белоруссия", а Беларусь, ну а анахранізм "советская" проста не можа не выклікаць прыкрае пачуццё. Дарэчы, такіх устойлівых "советских" газет на тэрыторыі былога СССР захавалася чатыры: "Советская Россия", "Советская Татария", "Советская Чувашия" і ўжо названая "Советская Белоруссия". Кансерватызм рэдакцыі проста здзіўляе, ну чаго так трымацца за гэтую анахранічную, пракамуністычную назву газеты, якая, дарэчы, мае такі вялікі тыраж, ідзе ў шмат якія краіны блізкага і далёкага замежжа? Ці ў калектыва рэдакцыі жыве надзея, што ўсё вернецца "на кругі свае", рэанімуецца былая камуністычная імперыя, і іх "хросныя бацькі" з пракамуністычнага Саўміна РБ пахваляць за "стойкасць" у захаванні і назвы, і вернасці прынцыпам газеты, якая раз-пораз дае матэрыялы, скіраваныя супраць дзяржаўнае беларускае мовы, за гэтак званае "двухмоўе", супраць сапраўдных з'яў і фактаў беларускай гісторыі. Карацей кажучы, газета "СБ" не спрыяе беларускаму Адраджэнню, а хутчэй, наадварот, робіць усё магчымае, каб затармазіць яго: а як жа, яна ж рускамоўная, калектыў баіцца, што калі сапраўды ў Беларусі пераможа ідэя беларускага Адраджэння, то журналістам прыйдзецца пераходзіць на беларускую мову. Яны ж яе не тое што не ведаюць (магчыма, сёй-той і "ведае"!), яны нашу мову проста не паважаюць. Бо не паважаюць дзяржаўную мову і "хросныя бацькі" з Саўміна на чале з панам Кебічам: я яшчэ ні разу не чуў з ягоных вуснаў жаднага слова па-беларуску! І гэта прэм'ер-міністр незалежнай дзяржавы, у якой ёсць свая родная мова! Такога няма нідзе ў свеце, такога не пацярпеў бы ніводзін народ у свеце. Гэта могуць цярпець толькі беларусы, якія не маюць пачуцця ўласнай годнасці, на правялікі жаль...

Як кажуць, чаго няма, то трэба старацца набыць яго. Спадзяюся, што з цягам часу з'явіцца ў беларусаў і пачуццё ўласнай годнасці, бо без спадзяванняў навошта тады і жыць, ці не так?!

Але вярнуся да артыкулаў спадарства з-за "бугра". Спадар А. Гілярчык, калі меркаваць па зместу ягонага ліста ў "ГР", вельмі даўно з'ехаў у туманны Альбіён, таму мне зразумелыя ягоныя "здзіўленні" аб убачаным на сваёй гістарычнай Бацькаўшчыне. Я ж маю магчымасць хаця б адзін раз у год наведвацца на Беларусь, таму мяне ўжо нічога, што адбываецца ў рэспубліцы, не здзіўляе. Да таго ж я выпісваю з Мінска цэлы стос беларускамоўных газет і часопісаў, слухаю па сваім радыёпрыёмніку перадачы Беларускага радыё, так што ў курсе ўсіх спраў на Бацькаўшчыне. Не ведае спадар Гілярчык, што адбываецца ў Расіі. Каб гэта ведаць, трэба там бываць ці хаця б чытаць расейскі друк, час ад часу праслухоўваць радыё з Масквы. Хапае і там розных "советских", якія плачуцца з нумара ў нумар аб разваленай імперыі, аб "притеснении русских", гучаць заклікі "аб'яднаць усіх славян у адзінай імперыі". Дастаткова разгарнуць старонкі шавіністычных газетак "День", "Российские ведомости", часопісы "Наш современник" ці "Молодая гвардия"! Так што нашыя пракамуністычныя, праімперскія "советские" выглядаюць у параўнанні з імі рахманымі авечкамі! Нічога, спадар А. Гілярчык, давайце будзем верыць, што новае пакаленне беларусаў усё ж з цягам часу даб'ецца не толькі змены назвы "Советской Белоруссии", але і розных "Белорусских нив", "Ближних Западов" і шэрагу іншых выданняў, якія сёння ўсё яшчэ працуюць не на беларускае Адраджэнне! Скажам, газета "Белорусская нива" на каго разлічана? На рускамоўна-трасянкамоўных старшынь калгасаў, іншых "камандзіраў" сельскай гаспадаркі, так сказаць, на вясковую "эліту". Такая вось "элітарная" газетка сабе, ужо шмат гадоў перастаўшая быць беларускамоўнай "Калгаснай праўдай", падрадзілася перад былым зноў жа ЦК КПСС–КПБ праводзіць русіфікацыю вясковага насельніцтва, сярод якога толькі і захавалася жывое матчына слова. Але дзякуючы "Белорусской ниве", матчына слова ўсё больш імкліва і настойліва выцясняецца "общедоступным языком": і чуеш у вёсцы сёння замест слова цягнік — поезд, замест слова цукар — сахар, нават бульбу перайменавалі ў картошку! Дажыліся, бульбашы, нічога не скажаш! І колькі, памятаю, было розных лістоў у розныя інстанцыі аб тым, каб перавесці газету для вяскоўцаў на родную мову. І што? Як праводзіла палітыку русіфікацыі, так і працягвае, ды яшчэ і назву ўкрала ў "Нашай нівы"! Спадзяюся, што на маючым адбыцца Першым з'ездзе беларусаў свету дэлегаты паднімуць больш рашуча пытанне аб мове газеты для беларускай вёскі. Не можа ж такое цягнуцца вечнасць!

Разумею абуранасць спадара І. Гілярчыка, і чым больш сярод беларусаў за мяжой будзе такіх патрыётаў у нашай Бацькаўшчыны, тым хутчэй мы зможам прымусіць абыякавы ўрад Беларусі паглядзець на праблему беларускага Адраджэння другімі вачыма! Дзякуй Вам, спадар Гілярчык, за такі ліст!

... А зараз літаральна некалькі слоў аб лісце ананіма з Польшчы, які падпісаўся "Падляшуком", бо не хапіла ў спадара смеласці, каб палякі за такі "выкрывальны" ліст не адпомсцілі. Вось у тым уся наша і бяда, што мы ўсяго баімся! Не трэба баяцца, палякі не баяцца пісаць пра беларусаў усялякія байкі не толькі ў польскай прэсе ў Польшчы, але і нашы дамарослыя ў сваім "Глосе з-над Нёмана" нене ды й ушчыкнуць беларусаў, то гэта ім не так, то тое не гэтак. Быў я ў гэтым Падляшшы, пабачыў усё на свае вочы: і Беласток, і Бельск-Падляшскі. Беларускага тут і засталося, што рэдакцыя газеты "Ніва", дзе можна пачуць больш-менш нармальную літаратурную беларускую мову. Як у нас у Мінску яе можна пачуць у тыднёвіку "ЛіМ", часопісе "Беларусь", іншых беларускамоўных выданнях, дзе ў калектыве прынята размаўляць паміж сабой па-беларуску. А на вуліцах не чуваць беларускай мовы ні ў Мінску, ні ў Беластоку, ні ў Бельск-Падляшскім! Так што вінаватыя ў гэтым, шаноўны "Падляшук", не палякі, жыды, украінцы, рускія, летувісы, латышы, якія захавалі свае мовы, і іх мовы сёння жывуць паўнакроўным жыццём ва ўсіх сферах. Вінаватыя мы самі, мы — беларусы! Каб не паддаваліся асіміляцыі, то не былі б сёння ні "рускімі" (праваслаўныя), ні "палякамі" (католікі)... Прыклад ёсць: чэхі і славакі! Чэхі не зрабілі славакаў чэхамі, а славакі — чэхаў славакамі, хаця іх мовы найбольш блізкія адна да адной. Чэхі дасканала разумеюць славакаў, а славакі — чэхаў! І калі была адна дзяржава — Чэхаславакія, то ў школах Славакіі не вывучалі чэшскай мовы, а ў Чэхіі не вывучалі славацкай. Няма пільнай патрэбы і беларусам вывучаць рускую мову, якая і так зразумелая кожнаму беларусу, а карысней гэтыя гадзіны школьнай праграмы аддаць на лепшае вывучэнне роднай беларускай мовы, замежных заходнееўрапейскіх моў, знаўцаў якіх сярод беларусаў кот наплакаў!

Спадар "Падляшук" піша ў "Голас Радзімы": "Мы не паедзем у такую "Беларусь", беручы назву нашае Бацькаўшчыны ў двукоссе. Па-першае, ніхто не даў Вам права абражаць дзяржаву, гэта раз. Па-другое, хто Вы такі, калі пішаце ў множным ліку "мы"?! Вы не паедзеце, гэта зразумела, гэта, як кажуць, асабістая Ваша справа. Прымаўка кажа: "Баба з калёс — каню лягчэй!" Менш прыедзе ў Мінск на з'езд незадаволеных сваім становішчам людзей за мяжой — толькі і ўсяго. Да таго ж мы едзем на з'езд не незадавальненні сваім жыццём на ім выказваць, а абмеркаваць пытанні беларускага Адраджэння, як дапамагчы нашай гістарычнай Бацькаўшчыне выйсці з такога гаротнага становішча, запрацаваць нарэшце Закону аб мовах, бліжэй пазнаёміцца адзін з адным, нас жа, шчырых беларусаў, не так ужо і многа, каб мы праігнаравалі такую магчымасць, якую дае нам Першы з'езд беларусаў свету...

Так што, спадар "Падляшук", Ваш ліст не адбіў ахвоту асабіста ў мяне ехаць у Мінск на Першы з'езд беларусаў свету, які ладзіць "Бацькаўшчына". Хачу спадзявацца, не толькі ў мяне! Нам не трэба расколу, нам трэба шчыльней згуртаваць свае шарэнгі, каб ворагі беларушчыны ўбачылі гэта на свае вочы, адчулі нашу моц, калі мы разам скажам: "Жыве Беларусь!"

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг, дэлегат Першага з'езда беларусаў свету.**

Украіна, г. Ізяслаў.

# УСЁ МОЖНА ВЫРАШЫЦЬ СПАКОЙНА

Шаноўны пан рэдактар!

Шчыра ўдзячны за "Голас Радзімы", які рэгулярна прысылаеце мне. Карыстаючыся выпадкам, хачу паведаміць, што кафедра ўсходнеславянскіх даследаванняў Вышэйшай педагагічнай школы ў Ольштыне вельмі цікавіцца культурай Беларусі. Неўзабаве выйдзе пад маёй рэдакцыяй кніга "У коле беларускай культуры", нядаўна выдадзена праца прафесара Станіслава Ланьца "Беларусь у перыяд грамадска-палітычнага крызісу (1900–1914)". У кастрычніку мы арганізуем міжнародную канферэнцыю па праблемах літаратурных і моўных польска-ўсходнеславянскіх кантактаў, на якой будуць прачытаны таксама рэфераты, прысвечаныя беларускай культуры. У нас усталяваліся вельмі добрыя кантакты з невялікай мясцовай беларускай дыяспарай. Гэта нас вельмі цешыць, і мы надалей маем намер удзяляць гэтым справам вялікую ўвагу. Ужо цяпер вядзём курсы для студэнтаў, якія жадаюць авалодаць беларускай мовай. Пішацца манаграфія пра Мікалая Янчука, у хуткім часе будзем чытаць лекцыі на тэмы беларускай культуры.

Вядома, гэта не так ужо і многа, але важна, што мы паволі і сістэматычна пашыраем веды пра ваш край у Польшчы. Мы кіруемся прынцыпам, што культуру сваіх найбліжэйшых суседзяў трэба ведаць, бо гэта ж збліжае народы.

І яшчэ адна заўвага. З вялікім здзіўленнем прачытаў у N 21 "Голасу Радзімы" ліст нейкага "Падляшука". Колькі ж у ім нянавісці, тэндэнцыйнасці, павярхоўных і несправядлівых ацэнак. Па праўдзе, такія лісты нічому і нікому не служаць. У польска-беларускіх культурных стасунках ёсць сапраўды многа прыгожых старонак (ёсць, вядома, і цёмныя), а нянавісць да добрага не вядзе. Патрэбна спакойная аб"ектыўнасць. Самыя складаныя і цяжкія справы можна вырашаць без нянавісці.

**Валенты ПІЛАТ,**
**прафесар.**

Ольштын, Польшча.

# ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

**Шаноўныя суайчыннікі!**

**Наступны, 1994 год, вяртае нас да адной з гераічных старонак мінуўшчыны: 200 гадоў таму нашыя продкі, сумесна з палякамі, пад агульным кіраўніцтвам Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, беларуса з паходжання, узняліся на вызвольнае паўстанне супраць іншаземных акупантаў ды іх памагатых. Паўстанцы ішлі ў бой пад сцягамі, на якіх былі словы — Воля, Роўнасць, Незалежнасць.**

**24 красавіка 1794 года ад расейскіх захопнікаў была вызвалена Вільня, утворана Найвышэйшая Рада Вялікага Княства Літоўскага. Паўстанцкае войска ў Вялікім Княстве ўзначальваў генерал Якуб Ясінскі. У змаганні бралі ўдзел усе станы грамадства — шляхта, сяляне, мяшчане, людзі розных веравызнанняў. Колькасць паўстанцаў на Беларусі дасягала 20 тысячаў.**

**Полымя паўстання ахапіла значную частку краіны. Але барацьба была няроўная. Загартаваная ў захопніцкіх паходах расейская армія Суворава задушыла паўстанне.**

**Беларускі народ заўжды захоўваў памяць пра гэты гераічны чын і свайго суайчынніка Андрэя Тадэвуша Касцюшку. Пазней яго велічны вобраз натхняў змагароў за свабоду ў 1831 і 1863 гадах. Кастусь Каліноўскі пісаў пра Касцюшку як пра абаронцу інтарэсаў беларускага народа, заклікаў сваіх паплечнікаў быць годнымі славы мужных барацьбітоў 1794 года. Тым самым ён здзейсніў і паказаў пераемнасць вызвольнай традыцыі ў нашай гісторыі.**

**Імёны Тадэвуша Касцюшкі, Тамаша Ваўжэцкага, Якуба Ясінскага, Міхала Клеафаса Агінскага, Стафана Грабоўскага — святыя для нас. Як святая памяць тых сотняў і тысячаў невядомых беларусаў, што загінулі ці пралілі сваю кроў у бітвах з ворагам пад Вільняй, Гародняй, Бярэсцем, Кобрынам, Слонімам, Ашмянамі, Смаргонню, Любанню, Браславам, Бабруйскам і Варшавою. Увекавечыць іх імёны — наш святы абавязак.**

**Святкаванне юбілею паўстання адбудзецца ў Беларусі ўпершыню. Гэтая падзея павінна аб'яднаць нас вакол вялікай справы Адраджэння. Паходня волі і незалежнасці, запаленая паўстанцамі 1794 года, не павінна згаснуць.**

**Жыве Беларусь!**

**НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ ПА СВЯТКАВАННІ Ў БЕЛАРУСІ 200-х УГОДКАЎ ВЫЗВОЛЬНАГА ПАЎСТАННЯ 1794 года.**

# ВЯРТАННЕ

## ЖЫЦЦЯПІС БАРЫСА УЛАДЗІМІРАВІЧА КІТА



Барысу Уладзіміравічу пашчасціла на эміграцыі: ён і там меў магчымасць займацца настаўніцкай дзейнасцю. Прыроджаны педагог, ён навучаў, выхоўваў моладзь, пачынаючы ад школ да універсітэтаў. На эміграцыі ён не згас, а ўспалымнеў творча — дзейсная, працавітая, цярплівая натура беларуса працягвала тварыць гісторыю ўласнага жыцця, якая яркай, змястоўнай старонкай упісвалася ў гісторыю чалавецтва.

Напачатку Барыс Кіт з жонкай і сынам трапіў у Баварыю, горад Офенбах-Ліндау, а пазней у Мюнхен. Выкладаў матэматыку ў эмігранцкіх гімназіях. У ваколіцах Мюнхена знаходзіўся лагер для перамешчаных асобаў, дзе жылі ў асноўным украінцы. Тут і была створана ўкраінская нацыянальная гімназія, у якой Барыс Кіт на працягу трох гадоў навучаў дзяцей матэматыцы. Адначасова вучыўся і сам у Мюнхенскім універсітэце на факультэце медыцыны (1945–1948). Тут яму вельмі дарэчы было веданне нямецкай мовы, якую ён вывучаў у Віленскім універсітэце. Адным з яго найбольш здольных вучняў ва ўкраінскай гімназіі быў Юры Ольхіўскі, які пазней стаў вядомым амерыканскім вучоным, прафесарам Джорджстаўнскага універсітэта ў Вашынгтоне.

Аднак трэба было думаць пра пастаяннае месца пражывання. Лагер для перамешчаных асобаў — гэта часовы прыпынак, магчымасць агледзецца, усвядоміць сваё становішча і вырашыць, куды накіравацца, дзе знайсці надзейны прытулак.

У 1948 годзе Барыс Кіт пакідае Еўропу і пераязджае з сям'ёй у Амерыку. Цяжкасцей з пераездам ніякіх не было, ён меў на руках дакумент аб тым, што праследаваўся немцамі ў гады акупацыі Беларусі. Да таго ж у пасляваенны час амерыканскі прэзідэнт Трумэн падпісаў пастанову аб прыняцці 200 тысяч чалавек з лагераў перамешчаных асобаў у Германіі, і таму многія беларусы, якія знаходзіліся ў гэтых лагерах, прынялі рашэнне пераехаць на сталае жыхарства ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Барыс Кіт адным з першых прыняў такое рашэнне. Можна толькі здагадвацца, якія пакутліва-супярэчлівыя пачуцці валодалі яго душой, калі ён з жонкай і сямігадовым сынам ступіў на хісткую палубу парахода і праз некаторы час упершыню ўбачыў славутую статую свабоды ў Нью-Йоркскім марскім порце, і яму нясцерпна захацелася, каб параход павярнуў назад, зноў павёз яго бліжэй да Радзімы. Можа ў гэты момант яму прыгадвалася, як ён ва ўзросце свайго сына разам з маці пакідаў галодны і халодны паслярэвалюцыйны Петраград у перапоўненым абяздоленымі людзьмі вагоне. І цяпер на параходзе яму думалася пра бясконцыя цяжкасці — рэвалюцыі, войны, рэпрэсіі, разбурэнні, якія вымушана перажываць Бацькаўшчына, што ніяк не спрыяе нармальнаму жыццю простых людзей. Расстанне з Радзімай заўсёды цяжкае, тым больш, калі не ведаеш, ці вернешся да яе парога...

Але падзея адбылася. Першыя крокі на амерыканскай зямлі Барыс Кіт зрабіў у самым канцы 1948 года. У студзені 1949 ён едзе ў Саўт-Рывер (штат Нью-Джэрсі), невялікі горад непадалёку ад Нью-Йорка, уладкоўваецца на працу ў хімічную фірму, якая займалася фармацэўтыкай і знаходзілася ў суседнім з Саўт-Рыверам гарадку Нью-Брансвік. У Саўт-Рыверы на той час яшчэ не было беларусаў. Намаганнямі Барыса Кіта тут пачала засноўвацца беларуская калонія. Ён шукаў амерыканцаў-спонсараў, якія б маглі выпісваць беларускія сем'і з лагераў перамешчаных асобаў і на першым часе дапамагаць ім з побытавым уладкаваннем. Сам ён паслаў запрашэнне Хведару Ільяшэвічу — беларускаму паэту, літаратару, свайму добраму знаёмаму, але ў той дзень, як прыйшло запрашэнне, здарылася няшчасце: Хведар Ільяшэвіч загінуў у аўтамабільнай катастрофе. Сям'я Ільяшэвічаў засталася ў Польшчы (цяпер яго дачка жыве ў Шчэціне). Барыс Кіт выпісаў настаўніка Вадэйку, былога дырэктара гімназіі ў Баранавічах, хірурга Шчорса, якога потым выбралі віцэ-прэзідэнтам амерыканскага медыцынскага таварыства, кампазітара М.Куліковіча, але той прыслаў ліст падзякі і, прыехаўшы ў Амерыку, застаўся ў Нью-Йорку, святара Лапіцкага, які заснаваў беларускую праваслаўную царкву ў Саўт-Рыверы, настаўнікаў Вольгу Пазняк-Сяднёву, яго вучаніцу па Віленскай гімназіі, Дарафейчыка (дзед фізіка Зарэцкага з Беларусі) і многіх іншых беларусаў. Аднак не так проста і лёгка было эмігрантам, якія не валодалі мовай краіны пражывання, атрымаць працу. Барыс Кіт і тут дапамагаў, чым мог. Ён, ведаючы французскую і нямецкую мовы, даволі хутка авалодаў ангельскай мовай, і, дзякуючы таму, што ў Віленскім універсітэце студыяваў фізіку і хімію, а ў Мюнхене некаторы час навучаўся медыцыне, атрымаў пасаду адказнага кантрольнага хіміка ў фірме. Ён рабіў кантрольныя аналізы, правяраў медпрэпараты і вітаміны з дапамогай перадавой тэхналогіі, і таму без яго подпісу не выходзіла прадукцыя фірмы. Гэтае яго моцнае ўплывовае становішча спрыяла таму, што ён меў магчымасць уладкоўваць многіх сваіх землякоў на гэту фірму. (Некаторы час тут, да прыкладу, працаваў вядомы беларускі пісьменнік Юрка Віцьбіч).

Гэты нядоўгі перыяд жыцця ў Саўт-Рыверы быў своеасаблівым трамплінам перад узыходжаннем Барыса Кіта на вяршыні навуковай кар'еры. У вольным свеце напачатку яму неабходна было зарыентавацца, агледзецца, зразумець, на што ён здольны і чаго можа дасягнуць. Аказалася, што ягоныя талент, веды, адукацыя, атрыманыя на Беларусі, — моцны, надзейны грунт, які можа даць добры плён. У 1950 годзе ён пераязджае ў Лос-Анджэлес (штат Каліфорнія) і працягвае працаваць па спецыяльнасці хіміка ў розных фірмах. 1950 год азнаменаваўся важнай падзеяй у сям'і Барыса Кіта: нарадзіўся яго другі сын — Віктар. Тут жа ў Лос-Анджэлесе з 1956 года пачынаецца касмічная эра ў навуковай дзейнасці Барыса Кіта, калі ён уладкоўваецца на працу ў славутую амерыканскую фірму "North American Aviation" (цяпер "Rockwell International"), якая стварала амаль усе найбольш выдатныя амерыканскія касмічныя і аэранаўтычныя праекты, пачынаючы ад першых стратэгічных, інтэркантынентальных ракетных сістэмаў, як "Navaho", праз найбольш бліскучы праект XX стагоддзя "Apollo" (падарожжа чалавека на месяц) да сённяшняга чаўночнага касмічнага карабля "Shuttle". Трэба адзначыць, што гэтая фірма мела аддзел аэранаўтыкі, дзе былі распрацаваны такія самалёты, як P-54, што дапамаглі перамагчы гітлераўскую Германію і скончыць другую сусветную вайну, і дзе стваралiся праекты сучасных ракетных самалётаў.

Барыс Кіт адразу трапіў у сапраўдную навуковую атмасферу. Першыя месяцы ён знаёміўся з працай высокаінтэлектуальных людзей, для якіх былі створаны цудоўныя ўмовы, вывучаў навуковую літаратуру, уваходзіў у кола іх даследаванняў. Яго незвычайна захапляла і ўзвышала адчуванне, што ён належаў да вышэйшай амерыканскай навуковай эліты.

Кіраўніцтва фірмы, улічыўшы практычны вопыт Барыса Кіта як хіміка ў дадатак да прафесійнай адукацыі фізіка і матэматыка, даручыла яму даследаваць магчымасці ўжывання плыўкага вадароду для сістэмы "Navaho". Гэта былі тыя піянерскія часы, калі ўжыванне плыўкага вадароду належала да рэчаў, аб якіх можна было толькі марыць. Найбольшай цяжкасцю ў гэтых даследаваннях было тое, што плыўкі вадарод хутка выпарваўся: ён меў вельмі нізкую тэмпературу, а па-другое, ён заўсёды з'яўляўся ў дзвюх формах —арта-вадарод і пара-вадарод. Арта-форма сама пераходзіла ў пара-форму, выдзяляючы вялікую колькасць цеплыні. Уваходзячы ў гэтыя даследаванні, Барыс Кіт адчуваў сябе тут пачынальнікам. Ён цалкам аддаўся гэтай працы, праседжваў у бібліятэках, перачытваў навуковую літаратуру, правёў вялікую колькасць аналізаў і на гэтай аснове напісаў рэферат, выступіў з навуковым дакладам, які выклікаў агульную зацікаўленасць. Папярэднія вынікі былі добрымі, абнадзейваючымі, і таму было вырашана працягваць даследаванні якасцей плыўкага вадароду як будучага ракетнага паліва.



Прэзідэнт Міжнароднай Акадэміі астранаўтыкі Д. МІЛЕР уручае дыплом акадэміка Б. КІТУ.

Гэта была першая навуковая праца Барыса Кіта, якая мела вялікі ўплыў на пазнейшыя даследаванні аб плыўкім вадародзе, што заахвоціла яго далей займацца праблемамі ракетнага паліва, якое цяпер стандартна ўжываецца ў вялікіх ракетных сістэмах "Apollo", "Shuttle". Акрылены навуковымі дасягненнямі ў такой важнай галіне, Барыс Кіт вырашыў напісаць першы ў гісторыі падручнік аб усіх магчымых палівах для ракетных сістэмаў. Фірма поўнасцю яго падтрымлівала ў гэтых пачынаннях. Кніга выйшла ў 1960 годзе з прадмовай славутага вучонага, стваральніка сучаснай аэрадынамікі Тэадора фон Кармана, з якім Барыс Кіт быў асабіста добра знаёмы. Кніга была выдадзена ў прэстыжным выдавецтве "Macmillan Company" ў Нью-Йорку пад назвай: "Rocket Propellant Handbook".

Незвычайна шырокі рэзананс ад запуску першага спадарожніка Зямлі ўспрымаўся ў свеце як вялікае дасягненне чалавечага розуму, выключнага таленту. Амерыканцы, уражаныя тым, што не яны першыя запусцілі спадарожнік, актывізавалі сваю дзейнасць. Прэзідэнт Амерыкі паставіў задачу: апярэдзіць савецкіх вучоных у касмічных даследаваннях. Было запрошана да супрацоўніцтва шмат вучоных, ракетных экспертаў з усіх канцоў Амерыкі. Барыс Кіт найлепш падышоў, бо працаваў у гэтай сістэме, да таго ж добра ведаў рускую мову. Ён быў у 1958 годзе выкліканы з Лос-Анджэлеса ў Вашынгтон і пачаў працаваць у Міністэрстве паветраных сіл ЗША, у аддзеле касманаўтыкі. Да таго ж, на маладога, перспектыўнага вучонага былі ўскладзены і абавязкі дзяржаўнага дарадчыка-эксперта па развіццю міжнароднай касманаўтыкі, галоўным чынам, савецкай. Ён пачаў весці гэтыя сувязі ва ўласцівай яму памяркоўнай манеры добразычлівага стаўлення да людзей, тым больш, што валодаў незвычайнымі якасцямі характару — камунікабельнасцю, цярплівасцю, дыпламатычнасцю. Увесь час будучы над палітыкай, ён не адчуваў ніякай варожасці да сваёй былой краіны, не быў нацыяналістам, спрыяў міралюбству, у душы захоўваў нязгасную любоў да Радзімы. Савецкі спадарожнік, можна сказаць, дапамог Барысу Кіту выйсці на сусветную арбіту. У Вашынгтоне ён студыяваў поспехі ў касманаўтыцы іншых краін, пісаў рэфераты, пачаў ездзіць на Міжнародныя касмічныя кангрэсы, выступаць з дакладамі. У гэты перыяд адбываюцца сустрэчы і знаёмствы Барыса Кіта са славутымі людзьмі. З Вернерам фон Браўнам — нямецкім вучоным (пачынаў сваю навуковую дзейнасць у Германіі, пасля вайны ў Амерыцы працягваў распрацоўваць ракетную тэхніку), як і з Тэадорам фон Карманам, Барыс Кіт упершыню сустрэўся на Міжнародным кангрэсе ў Амстэрдаме (1958), але больш блізка яны сышліся на Вашынгтонскім сусветным касмічным форуме. Калі Барыса Кіта прадстаўлялі Вернеру фон Браўну, ён сказаў: "Доктар Кіт, вам не трэба другі раз прадстаўляцца, я ўжо знаёмы з вамі па вашых працах". І Карман, і Браўн, нягледзячы на сваю геніяльнасць, былі без комплексаў вялікасці, нішто чалавечае не было ім чужое. Вакол іх групаваліся таленавітыя людзі, якіх прыцягвалі не толькі гучныя імёны вядомых ва ўсім навуковым свеце вучоных, але і даступнасць, звычайнасць. Барыс Кіт, добра ведаючы напрамкі іх дзейнасці, адчуваў, што Тэадор фон Карман (1881–1963) больш вучоны (былы прафесар Гетынгенскага універсітэта, пачынаў сваю навуковую кар'еру ў Германіі, з прыходам Гітлера да ўлады эмігрываў у ЗША. Напісаў шматлікія работы па самалёта- і ракетабудаванню, аэра-, гідра- і тэрмадынаміцы і інш.), тады як Вернер фон Браўн (1912–1977) больш адміністратар, арганізатар навукі. (Пачынаў як канструктар ракет, адзін з кіраўнікоў германскага ваенна-даследчага ракетнага цэнтра ў Пэнемюндзе, дзе была створана ракета А-4. У 1945 годзе эмігрываў у ЗША. Тут пад яго кіраўніцтвам распрацаваны ракеты "Рэдстоўн", "Юпітэр", ракеты-носьбіты "Сатурн" для касмічнага карабля "Apollo". Пазней Барыс Кіт супрацоўнічаў з Браўнам і як вучоны, і як перакладчык у сустрэчах з рускімі і многімі іншымі вучонымі.

У 1960 годзе ў Рочэстэры (ЗША) адбыўся Міжнародны кангрэс фізікаў-ядзершчыкаў. У час яго падрыхтоўкі Барысу Кіту патэлефанавалі з Дзяржддэпартамента і прапанавалі стаць каардынатарам, кіраўніком групы 50 савецкіх вучоных, якія прыбылі на гэты кангрэс. Тут і адбылося першае яго знаёмства з Д. Блахінцавым, Н. Багалюбавым, А. Благанрававым, Г. Будкерам, В. Векслерам і іншымі вядомымі савецкімі акадэмікамі, знакамітымі талентамі, даследчыкамі ў галіне ядзернай фізікі і касмічных даследаванняў. З Германіі на кангрэс прыехаў Вернер Гейзенберг — стваральнік квантавай механікі, Нобелеўскі лаўрэат, прыбыў амерыканскі фізік Роберт Опенгеймер — бацька першай атамнай бомбы, якая была створана пад яго кіраўніцтвам у ЗША.

**Лідзія САВІК**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 22—26.**

*ДА 200-годдзя МІНСКАЙ ЕПАРХІІ*

# ШЛЯХАМ ПАКУТ І АДРАДЖЭННЯ

100 год таму, на святкаванні векавога юбілею Мінскай епархіі, прагучалі словы, звернутыя ў далёкую будучыню: "Дай Бог, каб святая і вялікая справа і на будучыя часы заўсёды ішла верным і прамым шляхам, каб да будучага святкавання двухсотгоддзя епархіі, калі гэтага пажадае Гасподзь, нашы аддаленыя нашчадкі маглі бачыць блізкае дасягненне той высокай мэты, якая ўказана Самім Збавіцелем у словах прытчы аб добрым пастыры: "И будет едино стадо и Един Пастырь".

Зведаўшы ў поўнай меры лёс, што выпаў на долю нашай шматпакутнай зямлі, Беларуская царква спазнала выпрабаванні, якія ў пэўныя моманты амаль зводзілі на нішто само яе існаванне. Яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя епіскап Анастасій (Брашаноўскі) сказаў:

"На ўсёй Русі ніякая набожная царква не спазнала столькі пагарды, лаянак, насілля, абразы, як царква Беларуская. Яе ахвярнікі, яе алтары, яе святое — крывавымі акроплены слязьмі". Аднак смерць і ўваскрашэнне — адвечныя сімвалы хрысціянства — сталі аднáчасова і яго лёсам, і калі ў найгоршы для праваслаўя час, у 1941 годзе, на ўсёй тэрыторыі Усходняй Беларусі дзейнічалі толькі дзве царквы, у пачатку 1993 года, года 200-годдзя Мінскай епархіі, Беларуская праваслаўная царква налічвала 788 прыходаў. Пра гэта і ішла гаворка на ўрачыстым акце з нагоды юбілею Мінскай епархіі, які адбыўся 25 чэрвеня ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Вось як вызначыў сённяшняе становішча праваслаўнай царквы на Беларусі Патрыяршы Экзарх Усяе Беларусі, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт у сваім слове: "Беларускі народ і яго царква вынеслі шмат пакутаў, але ўрэшце мы маем свабоду хрысціянскай асветы і выхавання, аднаўляюцца старажытныя манастыры і храмы, будуюцца новыя. Мы ўдзячныя Богу за тыя змены, што адбыліся ў адносінах паміж царквой і дзяржавай, бо царква мае сёння магчымасць загаіць раны і засяродзіцца на сур"ёзных праблемах духоўнага адраджэння народа". Трэба заўважыць, што ўпершыню мы даём прамову Уладыкі без уласнага перакладу, бо Мітрапаліт на гэты раз звярнуўся да прысутных на беларускай мове.

Пасля яго выступлення было зачытана прывітанне свяцейшага Патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі Алексія II.

"Калі без дапамогі Божай, без яго благаславення, — было сказана ў пасланні, — нетрывалай, марнай і дарэмнай бывае наша праца, то, з іншага боку, без працы чалавечай не надыходзіць і дапамога звыш, ад Бога". Вестка аб тым, што Мінская епархія ўзнагароджана ордэнам святога Роўнаапостальнага Вялікага князя Уладзіміра I ступені была вельмі цёпла сустрэта прысутнымі ў зале, сярод якіх знаходзіліся Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч, міністры, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, замежныя госці, вядомыя бізнесмены.

Але не толькі святочныя прамовы гучалі на гэтым вечары. Запомнілася выступленне Праасвяшчэннага Аўгусціна, епіскапа Львоўскага і Драгобычскага, які адразу заўважыў, што прыбыў на свята не толькі, каб засведчыць братэрскую любоў да Беларускай царквы, але і падзяліцца бедамі і болямі, якія зараз перажывае ўся сям"я славянскіх народаў, Украінская царква. Епіскап Аўгусцін, заўважыўшы, што зараз уся Еўропа перажывае пералом, нагадаў словы нядаўна памёрлага сербскага багаслова Іўсціна Паповіча, які сказаў, што дылема, якая заўжды стаяла перад царквой — "ці Хрыстос, ці антыхрыст" зараз канкрэтызавалася: "ці Хрыстос, ці Еўропа". Трэба думаць, што прадстаўнікі еўрапейскіх дзяржаў, якія прысутнічалі ў зале, не адчулі сябе пасланцамі антыхрыста, бо ўрачысты вечар працягваўся, і ад беларусаў Беласточчыны сход павітаў прадстаўнік праўлення брацтва святых Кірылы і Мяфодзія ў Польшчы Мікола Гайдук. Перадаўшы віншаванні з юбілеем ад Беластоцкай парафіі, ён заўважыў, што беларусаў па абодва бакі мяжы яднае не толькі мінулае, але і сённяшні дзень, калі Усявышні стварыў нам магчымасць адраджаць і ўмацоўваць нашыя цэрквы як у Рэспубліцы Беларусь, так і ў Рэчы Паспалітай у Польшчы. Напэўна, так, бо межы і мытні ствараюць людзі, а для Бога ўсе душы роўныя, незалежна ад таго, у якой дзяржаве яны пакутуюць ці радуюцца.

Са шматлікіх выступленняў, якія прагучалі ў гэты вечар, паступова складвалася ўражанне, што Праваслаўная царква на Беларусі сёння перажывае амаль што залаты век. Што гэта? Непазбежная святочная эйфарыя ці сапраўды праблемы нашай царквы падаюцца дробнымі і нязначнымі ў параўнанні са становішчам праваслаўных цэркваў у іншых краінах? Напэўна, каб атрымаць адказ на гэта пытанне, трэба пачакаць будняў, бо рабіць вывады падчас свята — занятак бессэнсоўны і няўдзячны.

Пасля ўрачыстага акта адбыўся канцэрт духоўнай музыкі, а само свята працягвалася яшчэ два дні. У суботу, 26 чэрвеня, адбылася святая літургія ў Мінскай царкве Марыі Магдаліны, Хрэсны ход праваслаўных брацтваў да крыніцы ў Крупцах, пакланенне Святому Крыжу ў памяць 1000-годдзя Праваслаўнай царквы на Беларусі і ўсяночнае набажэнства ў слуцкіх цэрквах. У нядзелю, 27 чэрвеня, адбылася святая літургія ў Свята-Духавым кафедральным саборы і ва ўсіх храмах горада Мінска.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**



**Мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму ФІЛАРЭТУ, Патрыяршаму Экзарху Усяе Беларусі на пасяджэнні вучонага савета БДУ ўручаны дыплом Ганаровага доктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта.**

**НА ЗДЫМКУ: дыплом Уладыку ФІЛАРЭТУ ўручае рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта Фёдар КАПУЦКІ.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**



# ПА ЎЗОРАХ СТАРАЖЫТНАЙ АРХІТЭКТУРЫ

Радасць была ў вачах тых, хто прыйшоў на асвячэнне будынка царквы ў Заслаўі 26 чэрвеня. На цырымоніі прысутнічаў Мітрапаліт Філарэт. Па закліку Уладыкі пелі "Многае лета" ўсім будаўнікам і ахвяравальнікам.

Таццяна Гаранская і яе муж мастак Віктар Маркавец у студзені 1992 года стварылі прыватнае індывідуальнае творчае шматпрофільнае прадпрыемства "Гарыслава". Яно і будуе царкву, якая будзе належаць да прыходу Спаса-Праабражэнскай царквы Заслаўя. Праект храма зрабіў мастак Віктар Маркавец. Капліца была задумана па ўзорах старажытнай беларускай архітэктуры. Эскіз капліцы і крыжа блаславіў Уладыка Філарэт.

Ажыццявіла задуму архітэктурная група Аляксандра Пятрова.

Царква — першы і галоўны элемент гісторыка-культурнага комплексу "Гарыслава". Гэта яго духоўная аснова. Калі мы пад'язджалі да Заслаўя, то здалёк убачылі невялічкую каплічку з цэглы. Яна амаль збудаваная. Засталося аздобіць яе знутры.

Акрамя царквы, у комплекс увойдзе музей гісторыі Заслаўя, мастацкая галерэя, навуковы цэнтр, невялічкая гасцініца, гандлёвы цэнтр. Комплекс будзе садзейнічаць папулярызацыі гісторыі Беларусі, адраджэнню духоўнасці і культуры, дапамагаць у правядзенні выстаў, канферэнцый. Таму ідэя яго стварэння мае падтрымку ў інтэлігенцыі. Але гэтая падтрымка хутчэй маральная, чым матэрыяльная.

Плануецца, што ў пабудову комплексу ўкладуць сродкі па роўных частках 24 партнёры. Ёсць надзея, што потым яны будуць атрымліваць прыбытак ад дзейнасці гандлёвага цэнтра.

Таццяна Гаранская добра ведае, што такое сёння займацца будаўніцтвам. Яна не скардзіцца на мноства праблем, а намагаецца іх вырашаць. Вось што яна расказала пра тое, як шукаліся сродкі на будаўніцтва царквы:

— Спачатку (гэта было ў 92-м годзе) нас падтрымаў Фонд культуры. Ён выдаткаваў трыццаць шэсць тысяч рублёў на фінансаванне праектных работ. Гарвыканком горада Заслаўя сумесна з фірмай "Ласком" унёс сто тысяч рублёў. Мы ўдзячныя кожнаму чалавеку, хто адгукнуўся і дапамог будаўніцтву царквы. Розныя людзі з-за акіяна ахвяравалі хто сотню, хто некалькі тысяч долараў. Мы вельмі ўдзячныя за падтрымку нашым землякам Кастусю Акуле з Канады, Галіне і Васілю Русакам, якія жывуць у ЗША. У мінулым годзе на Беларусь прыязджала фрау Лота Арбагафт з Германіі, якая ўжо некалькі гадоў запрашае да сябе ўлетку дзяцей з чарнобыльскай зоны. Даведаўшыся пра пабудову комплексу, яна таксама перадала праз знаёмых грошы. Будаўніцтва царквы будзе каштаваць каля 50 мільёнаў рублёў. Таму нават з дапамогай ахвяраванняў нам даводзіцца шмат пазычаць. Здаецца, мы з Віктарам вінны ўсяму гораду. Рабілі спробу зарабляць грошы самі.

Таццяна Гаранская неаднойчы звярталася да багатых беларускіх фірм. Паўсюль чула ветлівыя адмовы. Можа, заможныя людзі не вераць у гэтую справу, а можа, яна ім проста не патрэбна. Паўгода назад на ўзгорку, дзе сёння амаль збудаваная капліца, не было нічога.

Айцец Дзмітрый з Кафедральнага сабора ў Мінску так казаў пра лёс беларускіх святых на асвячэнні царквы:

— Кожны чалавек мае галоўную мэту ў жыцці — упадобіцца Богу. Мы маем шэраг святых, якія пражылі такое ж жыццё, як і мы, але сталі ўгоднымі Богу. Яны здолелі прайсці праз пакуты і грахі. Іх адданасць Богу наблізіла іх да яго, яны сталі святымі. Да святасці паклікана не толькі асобная душа, але і кожны народ, і нацыя. Гэта трэба памятаць.

На асвячэнне царквы, акрамя святароў, былі запрошаны мастакі, пісьменнікі, журналісты, навукоўцы, беларусы з-за мяжы. Некаторыя з апошніх там жа ахвяравалі грошы на храм.

А навокал ішло штодзённае жыццё. Нехта баранаваў бульбу недалёка ад царквы, нехта спакойна ехаў на кані побач з ёю. Рабілася нават трошкі няёмка ад такой абыякавасці. Наўрад ці ў мінулыя гады, калі ў Заслаўі было 4 царквы, людзі так спакойна працавалі б на зямлі ў час царкоўнага песнапення побач з імі. Здаецца, яны абавязкова хаця б перахрысціліся на храм ды і дзецям загадалі зрабіць тое ж самае.

У дзень асвячэння капліцы з'явілася газета праваслаўнай Рады гісторыка-культурнага комплексу "Гарыслава" і прыхода Спаса-Праабражэнскай царквы горада Заслаўя "Званьніца". Заснавальнікі яе — айцец Мікалай (настаяцель Спаса-Праабражэнскай царквы), Т. Гаранская і В. Маркавец (ён жа галоўны рэдактар).

Хочацца, каб людзі, якія прыедуць у Заслаўе праз некалькі гадоў, маглі ўбачыць увесь комплекс. Тым жа, хто можа дапамагчы матэрыяльна ў справе дабудовы і аздаблення капліцы "У імя ўсіх беларускіх святых", паведамляем:

рахунак N 2468317, код 795, для ІТШМП "Гарыслава" ў АКБ "Беларусь" г. Мінска.

**Алена СПАСЮК.**

**НА ЗДЫМКУ: асвячэнне капліцы "У імя ўсіх беларускіх святых" у Заслаўі.**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

*СЛОВА ПРА СЛОЎНІК МОВЫ "НАШАЙ НІВЫ"*

# ДУША БЕЗ РОДНАЙ ГАВОРКІ -- КВЕТКА БЕЗ КАРАНЁЎ

Усе народы падчас адраджэння сваёй мовы або падмацавання яе пазіцый шукалі апоры ў нацыянальных традыцыях, у сваёй гістарычнай памяці. Сёння гэтым шляхам выпала прайсці і беларусам: лёс даў нам яшчэ адзін шанц адрадзіць сваю мову. А адроджаная мова стане добрым правадніком нацыянальнай культуры.

Працэс развіцця беларускай літаратурнай мовы праходзіў няроўна і няпроста, не раз перапыняўся, скіроўваўся ў іншае рэчышча. Два стагоддзі беларуская мова існавала выключна ў вуснай форме, бо была забаронена. І толькі ў пачатку XX стагоддзя на ёй ізноў пачалі пісаць. Такі расклад акалічнасцей абавязвае нас, нашчадкаў, асабліва ўважна засяродзіцца на сваёй моўнай спадчыне, каб не страціць ні крупінкі з таго, што ўжо створана нашым народам па часе яго папярэдняга палітычнага і духоўнага развіцця. Тым больш, што працэсы, якія адбываліся ў пэўныя перыяды жыцця нашай мовы, маюць самае непасрэднае дачыненне да многіх праблем лінгвістычнай сучаснасці.

Радуе, што з забыцця вяртаюцца многія каштоўныя лексікаграфічныя і навуковыя працы беларускіх вучоных. Перавыдадзены Расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік В.Ластоўскага (Коўна, 1924), Беларуска-расійскі слоўнік М.Байкова і С.Некрашэвіча (Менск, 1926), Беларуская граматыка для школ Б.Тарашкевіча (Вільня, 1926). У кнізе "Жывая спадчына" (Мінск, 1992) змешчаны рэдкія працы Я.Карскага, П.Бузука, М.Байкова, П.Растаргуева. Беларусы атрымалі доступ да Беларуска-рускага слоўніка Я.Станкевіча. Словам, множацца набыткі беларускай мовы і мовазнаўства. Усё больш жывых ніцяў працягваецца з мінулага ў сёння. Зразумела, беларускае лексічнае багацце не вычэрпваецца тым, што заключана ў слоўніках. Незапатрабаванымі застаюцца яшчэ велізарныя рэсурсы лексікі літаратурных крыніц, якія могуць унесці свежы струмень у нашу мову, аздаравіць яе сілы. Працаваць на адраджэнне павінен увесь слоўны запас беларускай мовы, а не выбраныя яго элементы.

Адсюль, зусім не выпадкова ў лексікографаў Інстытута мовазнаўства імя Я.Коласа АН Беларусі з'явілася задума стварыць Слоўнік мовы "Нашай нівы". Слоўнік лепш за якую-небудзь іншую працу здольны перадаць адчуванне шырыні і глыбіні мовы пэўнага перыяду.

Чаму выбраны менавіта гэты перыяд і гэтае перыядычнае выданне?

Пачатак XX стагоддзя звязаны з новым этапам у гісторыі фарміравання беларускай літаратурнай мовы. Гэта перыяд яе станаўлення як асобага феномена, які супаў з перыядам фарміравання лексічнай сістэмы, з перыядам складвання нормаў нацыянальнай мовы і паступовага расслаення лексічных сродкаў па функцыянальных стылях. Лексічныя рэсурсы беларускай мовы нашаніўскай пары з"яўляюцца той базай, на аснове якой асабліва выразна абазначыліся тэндэнцыі развіцця яе лексічнага складу. Без уліку гэтых тэндэнцый, без падрабязнай сэнсавай характарыстыкі слоўніка гэтага перыяду немагчыма атрымаць аб"ектыўнае ўяўленне аб тых семантычных зменах, якія адбыліся ў слоўнікавым складзе беларускай мовы ў працэсе яе гістарычнага развіцця.

У беларускай літаратурнай і моўнай спадчыне "Наша ніва" займае асобае месца. Гэта першая друкаваная газета (1906—1915), якая за адносна кароткі час узнялася да вышынь агульнанацыянальнага пісьмовага помніка і ўвайшла ў гісторыю Беларусі як своеасаблівы летапіс нацыянальнага адраджэння, як адна з тых гістарычных вехаў, якімі пазначаны шлях беларускай духоўнасці. З самага пачатку свайго існавання яна спрыяла выхаванню нацыянальнай свядомасці ў беларусаў, кансалідацыі беларускай інтэлігенцыі, будзіла ў ёй цікавасць да развіцця беларускай літаратурнай мовы, да граматыкі і правапісу, чым стымулявала і развіццё мовазнаўчай думкі на Беларусі. У мове "Нашай нівы" выразна адбіўся стан беларускай літаратурнай мовы на пачатку XX стагоддзя з усімі ўласцівымі ёй супярэчнасцямі. Яна не толькі падсумавала ўсё найбольш істотнае ў беларускай нацыянальнай традыцыі, але і заклала трывалы падмурак развіцця беларускай літаратурнай мовы на народнай аснове. Сваім зместам, гістарычнай актуальнасцю "Наша ніва" стала адной з аўтарытэтных крыніц пазнання гісторыі роднай мовы.

Слоўнік мовы "Нашай нівы" ахоплівае звыш 150 тысяч слоў, па сутнасці ўсю лексіку газеты ва ўсіх яе функцыянальных стылях і жанравай прыналежнасці. У яго ўвайшлі як агульнаўжывальныя на той час словы, так і вузка рэгіянальныя, устарэлыя тыпу **ізмога** (сіла, магчымасць), **абапольны** (узаемны), **ікра** (лытка), **дэсэнь** (узор), **дойка** (сасок), **дружынлівы** (які працуе дружна, сумесна, талакою), **дзірмазаваты** (хмызападобны), **ізвоз** (рамізніцтва). Па свайму тыпу слоўнік тлумачальны. Кожнаму слову ў ім адводзіцца асобны артыкул, у якім раскрываюцца ўсе яго значэнні і адценні. Ужыванне слова ў мове суправаджаецца ілюстрацыйнымі цытатамі з арыгіналу (на кірыліцы або лацініцы) з захаваннем тагачаснага напісання. Пры кожным слове ўказваецца колькасць яго ўжыванняў. Вось як, напрыклад, выглядае адзін з артыкулаў слоўніка:

ГАСЦІНА ж.(3). 1. Знаходжанне ў гасцях, гасцяванне. Французскі прэзідэнт, каторы прыехаў на тым тыдні ў госьці ў Расею, неўспадзеўкі скараціў гасціну і паехаў назад у Францыю. 1914, N28, с. I; 2. Гасціннасць. Stefanson, odjezajucy, chacieu (eskimosam) za hascinu zaplacic, tyje az zdziwilisia. 1910, N 16—17, с.269-270; ехать к богу в гасціну (адпраўляцца на той свет). 1910, N25, с. 375.

(Заканчэнне на 8-й стар.).



Традыцыйная сустрэча прайшла ў гэтыя летнія дні ля манумента Дружбы на стыку межаў трох дзяржаў СНД. Апрача жыхароў Браншчыны, Чарнігаўшчыны і Гомельшчыны, у ёй прынялі ўдзел і прадстаўнікі Сумскай, Арлоўскай і Магілёўскай абласцей. У праграме былі спартыўныя спаборніцтвы, сустрэчы маладых журналістаў, конкурс "Міс фестываль-93", выступленні самадзейных артыстаў і многа іншых цікавых мерапрыемстваў.

НА ЗДЫМКУ: у час свята.

Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.

**СВЯТА ПАЭЗІІ**

## ЁН АДПЛАЦІЎ НАРОДУ, ЧЫМ МОЦ ЯГО МАГЛА...

По добрай традыцыі штогод у першай дэкадзе ліпеня праводзіцца свята паэзіі, прысвечанае дню нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Сёлета яно супала са знамянальнай падзеяй — Першым з'ездам беларусаў свету. У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы падрыхтавана выстаўка "Беларусы ў свеце", адбудзецца сустрэча па інтарэсах з удзельнікамі з'езда.

3 ліпеня купалаўскі мемарыяльны запаведнік "Вязынка" запрасіў жыхароў і гасцей Беларусі на Рэспубліканскае свята паэзіі. У яго праграме — выступленне беларускіх пісьменнікаў, гурта народнай песні "Купалінка", вядучых калектываў мастацкай самадзейнасці з Маладзечаншчыны.

7 ліпеня ў парку імя Янкі Купалы ў Мінску чароўны купальскі вечар сабраў усіх, чыйму сэрцу блізкае імя паэта, хто захоўвае роднае слова, шануе спадчыну, верыць у будучыню свайго народа.

# ПРЫСУТНАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ШВЕЙЦАРЫІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й, 3-й стар.).

Якімі непаказальнымі выяўляюцца дасягненні нашай беларусістыкі ў вучэбным плане, такімі сціплымі лічацца яны і ў навукова-даследчай галіне. Пэўным укладам у беларусазнаўства можна назваць амаль скончаную дысертацыю цюрыхскага славіста і арыенталіста Пауля Сутэра пра кітабы, выдадзеную ў 1981 годзе трохтомную "Анатаваную бібліяграфію па славянскай сацыялінгвістыцы", якая ахоплівае болей за трыста тытулаў па моўнаму пытанню на Беларусі ў XIX і XX стагоддзях, а таксама вышэйзгаданую доўгатэрміновую праграму на тэму швейцарска-славянскіх узаемаадносін (літаратурных, культурных, палітычных і інш.), беларускіх уключна. Пытанням гісторыі беларусаў — у шырэйшым даследчым кантэксце — надаюць увагу працы дэкана філасофскага факультэта Цюрыхскага універсітэта, гісторыка Карстэна Герке аб старажытнай усходнеславяншчыне, цюрыхскага рэлігіязнаўца Эрыха Брынэра аб пашырэнні швейцарскіх рэфармацкіх рухаў у Польшчы і Літве, прафесара Кёльнскага універсітэта Андрэаса Капелера, швейцарца з паходжання, аб шматнацыянальным характары царскай Расіі і Савецкага Саюза.

Вельмі адмоўны факт, што ў швейцарскіх славістаў і спецыялістаў па ўсходнееўрапейскай гісторыі няма ні свайго згуртавання, ні свайго часопіса, і гэта значна абмяжоўвае іх магчымасць выступаць у друку і весці навуковы дыялог ва ўласнай краіне. Такім чынам, адсутнічае важная платформа і для ўвядзення беларусазнаўства ў рамках нашай славістыкі і гісторыі, і для забеспячэння ёй надзейнага месца ў швейцарскай навуцы і вышэйшай школе.

А як з выхадам беларускай тэматыкі за межы вузкіх колаў спецыялістаў, падключэннем яе да шырэйшага кантэксту культурнага абмену? У "культурных калонках" нашага перыядычнага друку дарэмна шукаць абмеркавання ці хаця б кароткай заметкі пра беларускую літаратурную і мастацкую творчасць. Мой агляд нямецкамоўных выданняў класічнай беларускай прозы (у перакладзе Норберта Рандава), здаецца, з'яўляецца выключэннем. Пэўна, і ў нас ёсць свае чытачы Быкава, Адамовіча і Святланы Алексіевіч, але таму, што творы іх перакладаюцца з рускай мовы, мала хто ўсведамляе сабе беларускае паходжанне аўтараў, успрымае прыкметныя рысы іх беларускасці. Са шкадаваннем трэба прызнаць, што задуманае перавыданне беларускай прозы ў выдатных перакладах Рандава адным з цюрыхскіх выдавецтваў не здзейснілася. Затое, як я даведалася ад Н. Рандава, другое цюрыхскае выдавецтва — славутае "Аман" — выявіла цікавасць да яго перакладаў вершаў Алеся Разанава.

Па праўдзе кажучы, у нас не толькі літаратурная, але і мастацкая творчасць беларусаў — як сучасная, так і мінулая — застаецца нераскрытай. Няшмат хто са швейцарскіх аматараў выяўленчага мастацтва ведае, што Марк Шагал, які стварыў, дарэчы, вітражы аднаго з найбольшых касцёлаў Цюрыха, паходзіў з Беларусі. Аб мастацкім жыцці Беларусі і найважнейшых яго падзеях зацікаўлены наш чытач мае магчымасць даведвацца на падставе англамоўных рэзюме часопіса "Мастацтва", што выпісваецца — побач з іншымі беларускімі — Цюрыхскай цэнтральнай бібліятэкай шляхам абмену з Нацыянальнаю бібліятэкай Рэспублікі Беларусь. Каб дасягаць шырэйшых колаў грамадскасці і абуджаць у іх цікавасць да беларускага мастацтва, безумоўна, было б пажаданым праводзіць выставы і гастролі музычных і танцавальных ансамбляў.

Тут годна ўвагі ініцыятыва ўрада кантона Аргаў, які заключыў пагадненне з Рэспублікай Беларусь аб усталяванні культурных кантактаў. Роўна праз год пасля пагаднення, у красавіку 1992 года, адбыўся ў кантоне Аргаў Тыдзень беларускай культуры, які даў швейцарскай публіцы першае ўяўленне пра народны танец, народную песню, сучасную музыку, графіку і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі. Шкада, аднак, што з боку і гасцей, і гаспадароў ужывана была ўвесь час толькі руская мова. Мова — важны фактар культуры, ды пакуль яе носьбіты — ці то дзеля выгаднейшага нібыта наладжвання сувязей, ці то з іншых прычынаў — прытрымліваюцца думкі, што роднае слова непадыходзячае і непаўнацэннае, культура іх наўрад ці ўспрымецца як самастойная і раўнапраўная.

Нядаўна адкрылі непасрэдную паветраную трасу між Цюрыхам і Мінскам. Значыць, больш ужо не трэба нам вакольным шляхам, праз Маскву, ляцець у Беларусь. Няхай гэта знойдзе праяўленне і ў беларуска-швейцарскім культурным абмене.

**Моніка БАНЬКОЎСКА-ЦЮЛІГ.**

Галіна ДАКАЛЬСКАЯ і Мікалай ПАШКЕВІЧ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ



# ...І СПАТКАННЕ АДБЫЛОСЯ

У верасні мінулага года ў газеце "Голас Радзімы" быў апублікаваны нарыс Сяргея Грахоўскга "Да спаткання", у якім ён расказваў пра сяброў свайго далёкага юнацтва мастакоў Галіну Дакальскую і Мікалая Пашкевіча. Мінула паўстагоддзя з таго часу, як яны пакінулі Бацькаўшчыну і доўгі час нават не мелі з ёй сувязі, былі адарваны ад блізкіх людзей. Толькі ў 1990 годзе Сяргей Грахоўскі атрымаў з Амерыкі першы ліст ад сяброў, пасля чаго перапіска і тэлефонныя размовы сталі рэгулярнымі і неабходнымі абодвум бакам. Мара пабываць на Радзіме, убачыцца з сябрамі, калегамі не пакідала Галіну Дакальскую і Мікалая Пашкевіча. У Беларусі ж усе, хто іх ведаў, марылі сустрэцца не толькі з мастакамі, але і з іх творамі.

Назва нарыса "Да спаткання" сталася сімвалічнай. У апошнія дні чэрвеня гэтае спатканне адбылося. У Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі адкрылася выстава работ Галіны Дакальскай, Мікалая Пашкевіча і іх дачкі Аліі Клэг. Вітаючы сяброў, Сяргей Грахоўскі сказаў, што, калі праз паўстагоддзя сыны і дочкі вяртаюцца на родную зямлю, гэта вялікае свята не толькі для іх саміх, але і для той зямлі, што ўзгадавала і натхніла талент, напаіла яго першымі жыватворнымі сваімі расінкамі, а цяпер сустрэла ўзмужнелым і знакамітым. У тым, што мастакі рашыліся нарэшце прыехаць у Беларусь, ёсць, па словах Галіны Дакальскай, заслуга і нашай газеты, бо калі пра іх пішуць, памятаюць, чакаюць, то, мусіць, не жадаюць ім зла і не пакрыўдзяць.

— У самалёце, калі ляцеў са Злучаных Штатаў у Беларусь, я думаў пра цуд. Цуд гэты для меня быў ужо ў тым, што я ўбачу месца, дзе нарадзіўся, стаў мастаком. Калі сустрэў тут надзвычай цёплы прыём, бачу прыхільныя, ветлівыя твары сяброў, лічу, што цуд адбыўся двойчы, — гаварыў на прэс-канферэнцыі перад пачаткам адкрыцця выставы Мікалай Пашкевіч. — Для нас эміграцыя была вымушанай, без усялякай нашай віны перад беларускім народам. Але аж да смерці Сталіна мы жылі за акіянам і баяліся, хацелі, каб пра нас проста забыліся. Цяпер паміж краінамі знімаюцца заслоны, адкрываюцца замкі, якімі мы самі сябе закрылі, адгарадзілі ад свету, чым нанеслі сабе вялікую шкоду.

Мікалай Аляксандравіч сказаў, што сучасны Мінск зрабіў на іх чароўнае ўражанне. "Па газетах цяжка ўявіць, якія змены могуць адбыцца за 50 гадоў, — сказаў ён. — Вы пабудавалі сапраўдны еўрапейскі горад. Ён нагадвае мне Ленінград, дзе я да вайны вучыўся і які добра ведаю. Вы ўзялі ад яго лепшае — шырыню і прастору яго Неўскага праспекта, вуліц".

З сучасным беларускім мастацтвам нашы землякі знаёмыя ў асноўным па кнігах і рэпрадукцыях, якія яны ў апошнія гады атрымлівалі з Беларусі ад сяброў і калег, тых, з кім разам вучыліся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме. Усяго некалькі тыдняў мінула з дня смерці Віталя Цвіркі, з якім марылі сустрэцца Дакальская і Пашкевіч. Родныя славутага беларускага жывапісца запрасілі гасцей наведаць яго майстэрню, дзе яшчэ захоўваецца невялікая частка яго работ.

Адбылася сустрэча з сябрам юнацтва Заірам Азгурам. "Мы цалаваліся і пілі каньяк", — весела сказаў Мікалай Пашкевіч пра гэта спатканне, і стала зразумела, як прыемна яму вяртанне ў мінулае, калі былі яны ўсе маладымі, дужымі і поўнымі радасных надзей.

На сустрэчу ў мастацкі музей прыйшоў Васіль Вітка, які, як і Галя Дакальская, як і Сяргей Грахоўскі, некалі працаваў у "Чырвонай змене" і памятаў прыгожую таленавітую мастачку. І Галіна Дакальская, і асабліва Мікалай Пашкевіч ужо да вайны былі вядомымі на Беларусі, іх работы экспанаваліся на выставах у Мінску і на Першай дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве. Мікалай Пашкевіч быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Сустрэча са сваімі даўнімі творамі была нечаканай для мастакоў, але, здаецца мне, прыемнай, зноў жа, як сустрэча з маладосцю. І хоць, напрыклад, сюжэт "чорнай карціны", як назваў яе цяпер аўтар, здаецца сёння кан'юнктурным (допыт партызана белапалякамі), Мікалай Аляксандравіч не адмаўляецца ад яе, лічыць, што ў мастацтве галоўнае — мастацкая вартасць. "А "чорная карціна" мае некаторую якасць", — сказаў ён.

Разам з бацькамі прыехала ў Беларусь і іх дачка, таксама мастачка, чароўная Алія Клэг, якая працуе старшым дызайнерам у славутым Дыснейлэндзе. На выстаўцы побач з творамі бацькоў экспануюцца і яе работы, сярод якіх можна знайсці і персанажы такіх любімых нашымі дзецьмі "мульцікаў".

Што і казаць, прыемна і радасна сустракацца з такімі светлымі, адкрытымі, інтэлігентнымі людзьмі, як члены гэтай таленавітай сям'і беларускіх мастакоў. Гэта прадстаўнікі той сапраўднай нацыянальнай інтэлігенцыі, якая амаль цалкам была вынішчана ў 30-я гады. Гэта той згустак інтэлекту і таленту, які здольны ўзбагаціць і зрабіць больш высакароднай любую нацыю.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКУ: Мікалай ПАШКЕВІЧ, Галіна ДАКАЛЬСКАЯ і іх дачка Алія КЛЭГ у Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі.**

**Фота А. КУРСКОВА.**

# ДУША БЕЗ РОДНАЙ ГАВОРКІ — КВЕТКА БЕЗ КАРАНЁЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

Слова ў артыкуле выступае ва ўсіх сваіх фанетычных, марфалагічных і словаўтваральных варыянтах: **глыбіня — глыб — глуб; зімовы — зімні; ідэйны — ідыёвы; капыт — капыта — капыто; кветка — квітка — квіт — квят; клопат — клапота; крадзеж — крадзежа - кража; крамнік — крамар; крызіс — крыза; курчо — курчонак; куфар — куфэрак — куфаль; млява — мляўка — млосна; момант — мамэнт; сакавік — сокавік; самадзельны — самадзелкавы — самадзялкавы; спагада — спогад; статак — стадак — стадка — стада — стадо; рамясло — рамяство.**

Паслядоўна падаюцца фразеалагізмы, прыказкі, прымаўкі: **адзін душою** (адзінокі), **да душы** (шчыра кажучы); **аддаць за сабачыя грошы** (аддаць за бясцэнак); **карачун** (канец); **ісці ладам** (на лад), **ісці не ў лад, праз лад** (праз меру, празмерна); **ласы да чортава зелля** (ахвотнік выпіць); **ад бяды бараніся, да чужога носа не бярыся; купляй кабылу гарбатую, жонку бяры лупатую; беларусы ядуць хлеб траякі — чорны, белы і ніякі;** тэрміналагічныя і іншыя словазлучэнні: **умэбляваць кватэру, умеркаваныя цэны, выліць колас** (закаласаваць), **Міністэрства прасветы.**

Чытач не знойдзе ў сучасных слоўніках беларускай літаратурнай мовы слоў **каламар** (чарніліца), **ветралёт** (апарат), **крам** (матэрыял фабрычнага вырабу), **жычка** (стужка), **вільгота** (вільгаць), **казеліцца** (адпірацца, адмаўляцца), **крамар** (крамнік), **спынак** (прыпынак, спыненне), **гуртаўнік** (хаўруснік, кампаньён), **гандлёўны** (які займаецца гандлем), **гнібець** (пакутаваць, гібець) і інш. Але сярод іх шмат такіх, якія арганічна ўпісваюцца ў канву беларускай мовы і сёння яшчэ не страцілі сваёй жыццёвай прывабнасці: **заліва** (затапленне вадой, патоп), **замысліцца** (задумацца), **замінішча** (тое, што замінае), **абступ** (асада), **наступства** (пераемнасць), **пекны** (харошы), **чародны** (чарговы), **чуць** (адчуваць), **умеркаваны** (умераны), **растаропіца** (бездарожжа), **дзівадзейны** (чарадзейны), **датка** (міласціна), **дзяніна** (падзёнкі), **доднік** (досвітак), **днейны** (дзённы), **дачэсны** (часовы, непастаянны), **лагвіна** (лагчына), **лабук** (высакарослы хлапец), **казеліцца** (адмаўляцца, адпірацца, пярэчыць у чым-небудзь) і інш.

У Слоўніку нямала знаёмых нам слоў, але ўжытых у іншых значэннях: **праўдзівы** (немінучы), **квасны** (кіслы), **весці** (звесткі), **лежань** (вулейкалода), новых па канструкцыі і сэнсу выслоўяў тыпу **не лезці на карак** (не перашкаджаць), **узвярнуць на карак** (ускласці цяжар на каго-н.), **гнуць карак** (угоднічаць), **гнаць па карку** (груба выпраўляць), **ісці ў руіны** (разбурацца, руйнавацца), **выпусціць кіпцюркі**; рэдкіх параўнанняў і эпітэтаў: **душа без роднай мовы — гэта кветка без каранёў, гэта разбітая скрыпка** (1914, N6, с.I); **востры прамень, дыяментавы пыл, вочы сівыя, блакітнае паветра, красны смех.**

Спецыяльны том прысвечаны ўласным імёнам — назвам геаграфічных аб"ектаў, імёнам, прозвішчам і псеўданімам людзей.

Асабліва самабытна выглядае тагачасны беларускі іменнік. Яго аснову складаюць такія старажытныя традыцыйныя імёны праваслаўнага і каталіцкага календара, як **Арцём, Аўдакім, Банадысь, Даніла, Ігнат, Кандрат, Капітон, Клім, Кузьма, Лукаш, Лявон, Максім, Мікіта, Нікан, Піліп, Раман, Спірыдон, Сымон, Тарас, Тодар, Халімон, Ціт, Якуб; Агата, Адэля, Алена, Даміцэля, Матрона, Міхаліна, Тадора, Тэкля.**

У народна-размоўным асяроддзі большасць афіцыйных імёнаў прайшла істотную апрацоўку і набыла ярка выражаны нацыянальны характар. Слоўнік адлюстроўвае багатую гаму іменных варыянтаў, якія нясуць на сабе рысы, уласцівыя беларускай граматыцы і фанетыцы: **Адам — Адась — Адасік, Аляксандр — Аляксандра — Алесь, Антон — Антось — Анцік, Апанас — Панас, Аўхім — Яхім, Віктар — Вінцэсь — Віцюк, Вінцэнт — Вінцэсь — Вінцук, Восіп — Юзік — Юзюк — Язэп, Габрусь — Габрук, Гарасім — Гараська — Граська, Гаўрыл — Гаўрыла, Дзямян — Дзёмка, Змітрок — Зміцер, Іван — Ян — Янка — Янук — Янель — Януль, Мікалай — Мікола — Міколка, Міхаіл — Міхайла — Міхалка — Міхась — Мішута, Пётр — Пётра — Пятро — Пятрок — Пятрук — Пятрусь — Пятрусік — Петрык, Радзівон — Родзька, Рыгор — Грышка — Грыгор, Саўка — Савель, Сямён — Сенька, Стэфан — Сцепан — Сцешка, Ціхон — Цішка, Хведар — Тодар.**

Уласныя імёны цікавыя тым, што яны цесна звязаны з гісторыяй народа, яго культурай. Слоўнік асабовых імён важны для гісторыі нашай мовы, у тым ліку для гістарычнай дыялекталогіі і анамастыкі. Ён можа быць з поспехам выкарыстаны пры адраджэнні беларускай іменаслоўнай сістэмы, у рэабілітацыі нацыянальнай традыцыі. Як і агульныя назвы, яны з"яўляюцца прадуктам шматвяковай творчасці народа, на іх наслойваюцца рысы нацыянальнай культуры. Таму нішто з таго, што трапіла на старонкі "Нашай нівы", не павінна быць страчана для навукі і наступных пакаленняў.

Слоўнік "Нашай нівы" цалкам не паўтарае сабой ніякіх іншых слоўнікаў ні складам уключаных у яго слоў, ні характарам выкарыстаных крыніц, ні зместам слоўнікавых артыкулаў, ён — унікальны.

Слоўнік змяшчае ў сабе канкрэтныя звесткі пра лексічны склад беларускай літаратурнай мовы адраджэнскага перыяду, аб"ектыўны самабытны матэрыял для вывучэння працэсаў фарміравання лексічных сродкаў літаратурнай мовы на базе жывой народнай мовы. Ён дапаможа зразумець стан мовы гэтага перыяду, значэнне слоў і выслоўяў і іх ужыванне ў пісьмовай мове. На аснове яго можна прасачыць, наколькі актыўна жывая мова таго часу пранікала ў літаратурную мову, наколькі лексіка пісьмовых крыніц узнімалася ў той час над лексікай тэрытарыяльных дыялектаў і ў якой ступені ўвайшла ў лексічны састаў беларускай літаратурнай мовы пазнейшага перыяду.

Праз год-другі праца над Слоўнікам будзе завершана. Але няма ўпэўненасці, што яна ўбачыць свет: вельмі ўжо абмежаваныя сродкі і ў акадэміі, і ў дзяржавы. Застаецца разлічваць толькі на айчынных і замежных фундатараў.

Усіх, каму неабыякавыя адраджэнне і лёс беларускай мовы, просім адгукнуцца.

**Валянціна ЛЕМЦЮГОВА, загадчык аддзела лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства АН Беларусі.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма".**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак. 977. Падпісана да друку 5. 07.1993 г.**